PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 38 (2001) ГОД XXXIX БЕЛАСТОК 18 ВЕРАСНЯ 1994 г. ЦАНА 4000 зл.

## З „ЖЫВЫМ СЛОВАМ” У ГАРАДКУ



*Экзамен здае Сяргей Статкевіч (зверху). Прымае — Ігар Картэль (знізу).*

Ужо шосты раз вандраваў самадзейны тэатр „Жывое слова” з Менска па Беласточчыне супольна з вандроўнай трупай „Балаган” пад кіраўніцтвам нястомнага Янкі Мордаidея. На жаль, не давялося мне прайсці з удзельнікамі вандроўкі ўсяго шляху па Гарадоцкай гміне: з Мастаўлянаў праз Зубры, Страшава, Гарадок, Валілы і Залукі. Усё-такі я быў сведкам іхняга выступлення перад самай вялікай публікай, у зале Гміннага асяродка культуры ў Гарадку.

Раней чым выступіць, артысты прагуляліся з песняй пад гітары і гармонік вакол колішняга гарадоцкага рынку, насаджанага пры „народнай уладзе” таполямі (гандляваць жа нечым было). Пры нагодзе дазволю сабе выказаць надзею, што споўніцца калісь мара Лёніка Тарасэвіча і гарадоцкаму рынку вернута будзе першабытная роля.

Вандроўныя артысты так шчыра запрашалі жыхароў Гарадка на свае выступленні, што забыліся прадаваць білеты. Прабавалі гэта рабіць ужо ў зале, але аказалася, што гледачы ці то грошай забылі, ці то іх шкадавалі. Паводле няшчасных скамарохаў, лягчэй было сцягаць даніну па вёсках. Што ж, усе поспехі беларускага руху тут і цяпер неадменна суправаджае фінансавы крах. Відаць ужо такая доля ў нас.

Як толькі пачаліся мастацкія выступленні на сцэне, у фае здарыўся невялічкі інцыдэнт. Падчас чытання купалаўскіх радкоў нехта крыкнуў: „Po polsku!” Гэта нейкі католік даказаў такім чынам свой патрыятызм пры падтрымцы падобнага сабе сябра. Увесь інцыдэнт здушаны быў у зародышу вандроўным шкаляром з Парыжа, ваяўнічым студэнтам праваслаўнага багаслоўя Юркам А. Паказаў ён іншадумцам адзіны магчымы выхад з сітуацыі, карыстаючыся словам, якога напэўна не навучыўся падчас тэалагічных спрэчак. Далей усё пайшло гладка.

Як сцвердзілі пасля мастакі „Жывога слова”, нейкія цяжкасці ў наладжанні моўнага кантакту з публікай для іх не навіна, прытым на Беласточчыне разумеюць іх ці не лепш, як у Беларусі, асабліва ўсходняй. У такой напрыклад быццам бы беларускай гімназіі ў Полацку пыталі іх, праўда, мякка: „А по-русски нельзя?”

Быў я толькі што ў Полацку і вярнуўся ўпэўнены, што болей людзей гаворыць па-беларуску ў вялікім горадзе Беластоку, чымся ў гэтым слаўным градзе. Полацк наяўна знаходзіцца пад беларускай акупацыяй, відавочна намнога цяжэйшай для тубыльцаў, чым прыкмечаная Сакратам у Менску.

Беларускія заходнікі з Гарадка дасядзелі ў аграмаднай большасці да канца двухгадзіннага спектакля, праяўляючы сваім рэагаваннем разуменне асноўных падзеяў на сцэне. Найлепшую забаву мелі дзеткі, самы падатлівы глядацкі матэрыял.

Усё-такі, ёсць у мяне і прычына зачапіць „Жывое слова”. Гэта ягоны рэпертуар. На вёсцы, вядома, прымуць хлебам-соллю кожнага, хто зробіць прыемным хаця б адзін вечар. А ёсць на Беласточчыне вёскі, куды дзесяцігоддзямі ніхто не заглядаў, нават дзеячы БДА за подпісамі падчас выбарчых кампаній. Тым не менш здаецца мне, што такі моцны гурт як „Жывое слова” павінен узяцца за больш амбітныя сцэнічныя формы, чымся складанка песняў і скетчаў. Талент артыстаў відавочны, асабліва ў камедыйным жанры і спяваць умеюць, дык чаму ж ім не паставіць нейкую камедыю або вадэвіль? А якія ў іх прыгожыя дзяўчаты! Нават бабы войкалі на зале ад захаплення, а мужчынскую частку публікі гэтая прыгажосць проста валіла з ног. Дамы павінны выступаць як дамы, а не ўзнаўляць на сцэне прыгонніцка-савецкую эпоху. Вось што!

Так ці інакш, „Жывое слова” — гэта не толькі жывы доказ таго, што беларусы яшчэ не звяліся, але і надзея на будучыню. Яго акцёры — гэта студэнты Педагагічнага інстытута ў Менску, будучыя настаўнікі. Некаторыя ўжо настаўнічаюць, напрыклад, 30-гадовы ветэран Ігар, для якога „Жывое слова” — гэта спосаб на жыццё. „Перастану граць толькі тады, калі мяне выганяць”, заяўляе са смехам. Такія настаўнікі напэўна не паверыць самому прэзідэнту РБ, быццам бы перавод школ на беларускую мову непатрэбны.

Пры нагодзе яшчэ пра адно: беларушчына надалей застаецца справай энтузіястаў. Нашы людзі, вядома, прымаюць іх чым хата багата, але гэта не мяняе факту, што ўсе маладзёжныя мерапрыемствы на Беласточчыне арганізуюцца за кошт беластачан і прыватныя грошы іхніх гасцей. Калі нарэшце выявіцца ва ўладах Рэспублікі Беларусь нейкі беларус і выдзеліць грошы на прыезд „Жывога слова” або рок-музыкаў на „Басовішча”?

**Алег Латышонак**

**P.S.:** Ні мне, былому старшыні БДА, ні майму пераймальніку на гэтай пасадзе, сп. Пятру Круку, на працягу года не ўдалося знайсці памяшкання на рэпетыцыі для маладзёжнага тэатра „Балаган” у Беластоку. Цікава, ці камусьці гэта ўдасца. Пра выніх пошукаў прашу паведаміць у „Ніве”.

**А.Л.**

**Фота Янкі Мордаidея**



*Адпачынак на панадворку Пётруся ў Страшаве.*

Пачаўся школьны год

## СКЛАДАНЫЯ СПРАВЫ

У Гайнаўскім агульнаадукацыйным ліцэі н-р 2 новы навучальны год 1994/95 пачаўся „Mazurkiem Dąbrowskiego” і ўзнясеннем сцяга школы. Кароткую, прывітальна-інфармацыйную прамову дырэктар ліцэя Яўген Сачко сказаў на польскай мове.

У новым ліцэі колькасць вучняў усё павялічваецца. На 401 ліцэістаў — 147 гэта першакласнікі. У першых класах 5 аддзелаў — два з матэматычна-фізічным і хімічна-біялагічным ухілам і тры агульныя. У наступным годзе плануецца адкрыць аддзел з гуманістычным ухілам (з навучаннем латыні).

— Кандыдаты, якія паступалі ў наш ліцэй, прадстаўлялі вельмі неаднолькавы ўзровень. Не было „шасцёрак”, але з гэтых пяці аддзелаў можна вылучыць 2 вельмі добрыя і 3 слабейшыя аддзелы, — сказаў дырэктар ліцэя.

З 15 верасня ў ліцэі будзе працаваць свая сталовая. Вядуцца інтэнсіўныя работы над пабудовай спартыўнай залы. Там маюць знаходзіцца таксама прылады для сілавых практыкаванняў, крыты басейн, зала на 360 гледачоў. Завяршэнне прац плануецца на наступны год.

У школе будуць працаваць новыя настаўнікі: паланісты — Ганна Клімюк і Ян Місеюк, фізкультурнік — Анэта Волчук, англіст — Гжэгаж Грыгарук і германіст — Васіль Дамброўскі.

Вучням дадзена магчымасць вывучаць тры замежныя мовы: англійскую, нямецкую, рускую — 5 гадзін у тыдзень. Цяжка таксама акрэсліць статус — родная яна ці замежная? — беларускай мовы. На 147 першакласнікаў 95 вучняў выводзяцца з Гайнаўкі. Толькі 10% гайнаўлян вучылася ў пачатковых школах беларускай мове. Многія пачнуць навучанне беларускай мовы і літаратуры з алфавіту, а ўзровень такога навучання можна сабе ўявіць.

Беларускую мову і далей выкладаць будуць: Васіль Сакоўскі, Аляксей Мароз і Яўгенія Буйноўская (русістка).

— Беларускія справы заўсёды складаныя. У нашай школе аднак, як нідзе, дзейнічае Клуб беларускіх спраў, працуюць інструктары па беларускай народнай музыцы — сужонства Сасновічы з Беларусі, адбыўся беларускі дэкламатарскі конкурс, выступаюць калектывы з Беларусі, праводзяць аўтарскія сустрэчы пісьменнікі, вучні ўдзельнічаюць у алімпіядзе беларускай мовы, некаторыя настаўнікі гавораць з вучнямі па-беларуску, — кажа дырэктар Яўген Сачко.

У ліцэі неўзабаве пачынае дзейнічаць школьны парламент. Будзе ён існаваць паводле суб'ектных адносін паміж бацькоўскім камітэтам, настаўніцкай калегіяй і вучнёўскім самаўрадам. Зараз жа вучні будуць вырашаць аб многіх сваіх праблемах. Парламентам будзе кіраваць самы папулярны настаўнік (II меcца ў вучнёўскім плебісцыце) Яўген Вапа — класны кіраўнік IV „А”. На „выхаваўчых” уроках і ў прыватных размовах карыстаецца ён беларускай мовай. Ужо сёння паінфармаваў ён сваіх ліцэістаў, што 28 красавіка 1995 г. чацвёртыя класы закончаць навуку, а 9 мая пачнецца „матура”. Экзамен па беларускай мове адбудзецца 11 мая, а ўсе іншыя — не далей як да 10 чэрвеня.

— У гэтым годзе заявы абітурыентаў аб адмове прыступаць да экзаменаў могуць прыносіць толькі іх бацькі, — напомніў яшчэ настаўнік.

**Ганна Кандрацюк**

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Urzędnik najczęściej zachowuje się jak pastuch, który gotów jest bić zwierzę tylko dlatego, że zeszło z drogi. A że krowa daje mleko, to dla niego mało ważne.*
*(Polityka, nr 33)*

* * *

*Prezydent Białegostoku zarabia, nie licząc dodatku stażowego, ponad 22 miliony złotych, prezydent Suwałk wraz z tym dodatkiem 24 miliony. Sprawa zarobków burmistrza Zabłudowa nie jest jeszcze do końca dopięta...*
*(Gazeta Współczesna, nr 164)*

Маем надзею, што заблудаўскія райцы не пакрыўдзяць свайго бурмістра. Чым жа ён горшы за сувальскага прэзідэнта?

* * *

*„Solidarność" to związek zawodowy i Stefan Kisielewski i ja nigdy nie mieliśmy złudzeń: do rozbicia się nadaje, ale będzie budował w Polsce socjalizm. Przywileje związku nieustannie rosną,* — сказаў Януш Корвін-Мікэ, лідэр Уніі рэальнай палітыкі.
*(Rzeczpospolita, nr 200)*

* * *

*Prawica włada w Przemyślu na ratuszu. Koalicja rządowa w Urzędzie Wojewódzkim. Prawica podnosi alarm przeciw „ukrainizacji" województwa i Przemyśla, patrząc w przód widzi jak od wschodu nadciąga wróg, poprzedzony rodzimą V kolumną.*
*(Rzeczpospolita, nr 201)*

У Пярэмышлі сітуацыя больш-менш такая, як і ў Беластоку. Розніца толькі ў тым, што там не стварылі яшчэ Саюза бяшчадскіх беларусаў.

* * *

*Наўрад ці Лукашэнка паважыцца хутка далучыць да Расеі ці нават аб'яднаць сістэмы краін. Расейскі прэм'ер заявіў беларускаму Прэзідэнту: „Аб якой інтэграцыі можа ісьці размова, калі вы адсталі на пяць гадоў". Каб зарэкамендаваць сябе з лепшага боку, спадару Лукашэнку прыйдзецца весьці рыначныя рэформы.*
*(Пагоня, н-р 27)*

Прэзідэнт Сашка хаця можа і плача, сумуючы па сацыялізме, але капіталізм будаваць будзе.

* * *

*Lech Wałęsa otrzymał wiele nagród zagranicznych. Z prawa dewizowego wynika obowiązek, by te pieniądze lokował w polskich bankach. On tego nie robi, obawia się tego, co może się w Polsce wydarzyć i co może stać się z jego pieniędzmi. Skoro prezydent nie przestrzega prawa dewizowego, czy można mieć pretensje do innych, którzy przeprowadzają nielegalne operacje finansowe?*
*(Wprost, nr 35)*

Калі хто не мае рахунку ў замежных банках, лепш яму трымаць грошы пад падушкай. Зразумела, калі ён яшчэ мае грошы.

* * *

*Przedsiębiorstwa winne są sobie wzajemnie oraz budżetowi i bankom około 600 bilionów złotych! Suma zbliżona do tej, którą rocznie dysponuje budżet państwa. Wycisnąć z niesolidnego dłużnika grosz niekiedy trudniej niż życie... nawet przy zastosowaniu metod „niekonwencjonalnych", czyli — mówiąc wprost — nasłania na niego bandziorów.*
*(Polityka, nr 34)*

* * *

*Mianowanie na stanowisko szefa wywiadu cywilnego Mariana Zacharskiego, który w zaprzyjaźnionym kraju otrzymał karę dożywotniego więzienia, szkodzi Polsce, — powiedział Andrzej Olechowski. Minister potwierdził, że otrzymał w tej sprawie ustną notę rządu USA.*
*(Gazeta Współczesna, nr 163)*

У 1989 г. сродкі масавай інфармацыі заявілі, што Польшча стала незалежнай краінай. А некаторыя нават у гэта паверылі.

* * *

*Co nam pozostało po sprawie Zacharskiego? Przekonanie, że nawet szefa wywiadu nie możemy mianować suwerenną, wewnętrzną decyzją, że głos decydujący w tej sprawie przychodzi z zagranicy. Bolesne to doświadczenie dla kraju, któremu wydawało się, że odzyskał suwerenność.*
*(Polityka, nr 35)*

* * *

*Ciągłe wtrącanie się Amerykanów Nowaka-Jeziorańskiego i Brzezińskiego w sprawy polskie staje się natrętne, żeby nie powiedzieć niebezpieczne.*
*(Wprost, nr 35)*

* * *

*Худы мужчына з Варшавы, які апекаваўся экскурсіяй дзетак з Гародні, самым важным лічыў інструкцыю як трэба ў Польшчы паводзіць сябе ў прыбіральні. Асабліва ўвага завастралася ў тым, каб не ступаць на ўнітаз нагамі, а сядаць тылкам. Будучы гід і кіраўнік на столькі завострыў на гэтым увагу, што паказваў адно і тое ж ужо ўчацвёрты раз.*
*Адным з асноўных патрабаванняў да ўсіх адʼязджаючых на двухтыднёвы адпачынак у Польшчу ставілася абавязкова насіць адналькавыя кашулькі, якія кіраўнік асабіста ўручыў кожнаму. На іх чырвоным на беламу надпіс — Polska. А знізу герб Рэчы Паспалітай і Пагоня, як зазначыў гід — герб Летувы, якая з яго слоў, таксама ўваходзіла ў склад Польшчы.*
*Паездку гэту для моладзі, для тых хто з поспехам вывучае польскую мову, зарганізавала Варшаўская фундацыя Польскай культуры на „Усходніх Крэсах". Потым відавочным стане, што чужую дзяржаву можна безапэляцыйна называць сваімі Крэсамі і не прымаць у свой бок на гэты конт ніякіх аргумэнтаў.*
*(Пагоня, н-р 27)*

* * *

*Прэзідэнт Беларусі А. Лукашэнка сустрэўся са сваімі землякамі ў... лазні горада Шклова, куды па даўнейшай звычцы прыехаў папарыцца. Парыўся прэзідэнт без аховы.*
*(Літаратура і мастацтва, н-р 33)*

* * *

*Беларусь зноў „захапілі" немцы, але гэтым разам „уварваньне" адбылося на запрашэньне саміх беларусаў. У Менск адна за адной накіроўваюцца групы нямецкіх спецыялістаў з энергетыкі, транспарту, эканомікі і сельскае гаспадаркі.*
*(Свабода, н-р 32)*

Чым гэта скончыцца? Партызанскі рух тут ні пры чым.

* * *

*Wielkim światem powiało w sopockim hotelu Grand, gdzie zamieszkali najbardziej znaczący goście festiwalu Sopot' 94. Dla nich organizatorzy spełniali wszelkie kaprysy i zachcianki. Paul Young zażyczył sobie towarzystwa wróżki oraz własnego dentysty i lekarza ogólnego. Mniejsze wymagania miała Edyta Górniak, która zażyczyła sobie wysokiego, inteligentnego i nie rzucającego się w oczy agenta ochrony. Organizatorzy mieli sporo kłopotów, by znaleźć osobę spełniającą te wszystkie warunki. Nie było problemów ze znalezieniem szerokiego łóżka dla piosenkarki.*
*(Rzeczpospolita, nr 199)*

Эх, гэтыя артысты!

# З мінулага тыдня

**У Каіры** праходзіла Канферэнцыя Аб'яднаных Нацый па пытаннях насельніцтва і развіцця. У інаўгурацыйнай прамове генеральны сакратар ААН **Бутрас Галі** заявіў, што будучыня чалавечага грамадства і паспяховасць эканамічнага ладу планеты залежыць ад вынікаў Канферэнцыі, якая абмяркоўвала сродкі спынення сусветнага дэмаграфічнага росту.

**Шэф Сусветнай арганізацыі здароўя Гірошы Накаджыма** звярнуўся з заклікам да ўдзельнікаў каірскай канферэнцыі ААН, прысвечанай дэмаграфічным пытанням, заключыць „перамір'е" ў супярэчлівых справах абортаў і планавання сям'і. Віцэ-прэзідэнт ЗША **Альберт Гор**, пасля сустрэчы з кіраўніком ватыканскай дыпламатыі архіепіскапам **Антонія Марціна** сказаў, што нельга гаварыць аб кампрамісе. Аднак ужо цяпер бачна выразная тэндэнцыя знайсці пагадненне паміж прыхільнікамі лібералізацыі права на спыненне цяжарнасці і рашучымі праціўнікамі абортаў. Назіральнікі мяркуюць, што яшчэ да адкрыцця канферэнцыі быў дасягнуты кампраміс „у 90 працэнтах спраў".

**Сейм не адкінуў прэзідэнцкага вета** супраць лібералізацыі закона аб умовах правядзення абортаў. За паўторным прыняццем гэтага закона галасавалі 232 паслы, супраць — 157, а ўстрымаліся — 22. Каб адкінуць вета не хапіла 42 галасоў. Адабрэнне Сеймам прэзідэнцкага вета абазначае, што ў далейшым абавязвае закон ад студзеня 1993 года, які дазваляе на аборт у трох выпадках: калі цяжарнасць пагражае жыццю або здароўю жанчыны, калі пагражае цяжкое і няўхільнае пашкоджанне плода і калі цяжарнасць з'яўляецца вынікам злачынства, г. зн. гвалту або кровазмяшэння. У такой сітуацыі не дапускаюцца аборты з увагі на цяжкія жыццёвыя ўмовы або на цяжкую асабістую сітуацыю жанчыны, да чаго імкнуўся Сейм, ухваляючы раней навелу вышэйзгаданага закона.

**Спроба выключыць з Уніі вольнасці Барбару Лябуду** — змагарку за правы жанчын на аборт, кампраметуе кіраўніцтва партыі і давядзе да спаду папулярнасці Уніі ў грамадстве, — сказаў адзін з вядомых дзеячаў гэтай партыі **Уладзіслаў Фрасынюк**. — Замест абмяркоўваць праграму і месца Уніі на палітычнай сцэне ці стратэгію перадолення бачнага ў партыі крызісу тоеснасці, кіраўніцтва УВ засяроджваецца на клеймаванню непакорлівых іншадумцаў, — дабавіў ён.

**Сімпозіум, прысвечаны польска-нямецка-расейскаму супрацоўніцтву,** арганізавала ў Мікалайках **Польская экуменічная рада**. У сустрэчы ўдзельнічала 95 дзеячаў палітычных груповак з Нямеччыны, Польшчы і Расеі — прыхільнікаў аб'яднання Сярэдне-Усходняй Еўропы з Заходняй, а таксама прадстаўнікі культурных і рэлігійных асяроддзяў.

**Tex-Expo'94** — так называўся II Міжнародны кірмаш у Беластоку, мэтай якога была папулярызацыя прадукцыі польскай электроннай і тэлекамунікацыйнай прамысловасці. У кірмашы прымала ўдзел 60 фірм з Польшчы і адна з Беларусі, а таксама праф. **Марэк Кастшэўскі** з Варшаўскага універсітэта, які зачытаў для прадпрымальнікаў даклад на тэму „Перад тым, як пойдзеш на Усход: некаторыя юрыдычныя пытанні і практычныя парады".

У гэтым годзе **Ваяводская ўправа працы ў Беластоку** выдала іншаземцам 37 дазволаў на працу, у тым ліку **22 дазволы атрымалі грамадзяне Беларусі**. Найбольш дазволаў атрымалі прадстаўнікі мастацкіх прафесій — 15, члены ўпраўленняў супольных прадпрыемстваў — 8, а таксама ўсякага роду спецыялісты, эксперты і саветнікі — **6**.

**У Беластоку** ствараецца новае прыстанішча для бяздомнікаў. У былым інтэрнаце аднаго з беластоцкіх прадпрыемстваў Гарадскі цэнтр грамадскай дапамогі правядзе патрэбны рамонт, а Пенітэнцыянарнае таварыства „Патранат" сарганізуе начлежны дом для мужчын.

**Сяргей Федаровіч** — салдат беларускіх пагранічных войск — здэзэрціраваў і перайшоў са зброяй на тэрыторыю Польшчы. У выніку трохдзённых пошукаў быў ён затрыманы каля Аўгустова. Пасля допыту пагранічнік быў перададзены беларускаму боку.

# ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

- Пра сумленных сялян і несумленнага лекара.
- Беларусь шукае сваёй дарогі выхаду з крызісу.
- „На ратунак свае веры!" — піша М. Гайдук.
- „На ратунак свае культуры!" — заклікае паэт Ніл Гілевіч.

# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

## Антыкрызісная праграма

Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка сустрэўся з распрацоўшчыкамі антыкрызіснай праграмы. Паводле яго слоў, кожны са ста пяцідзесяці спецыялістаў, якія працуюць сёння над дакументам, будуць несці персанальную адказнасць за падрыхтаваныя імі палажэнні праграмы.

## Скарачаецца апарат

Працягваецца скарачэнне структур апарату выканаўчай улады ў рэспубліцы. Адным з прэзідэнцкіх указаў скасавана Міністэрства будаўніцтва і эксплуатацыі аўтамабільных дарог, Дзяржаўны камітэт па архітэктуры і будаўніцтву і Міністэрства прамысловасці будаўнічых матэрыялаў. Іх функцыі будзе выконваць зараз Міністэрства архітэктуры і будаўніцтва.

## Рэформа выканаўчай улады

Зараз вядзецца распрацоўка законапраекта аб мясцовай уладзе, які будзе разглядацца на сесіі Вярхоўнага Савета пад канец верасня. Сёння выканаўчая і прадстаўнічая ўлады на месцах існуюць фармальна, але практычна не працуюць. Таму адміністрацыя прэзідэнта рыхтуецца да правядзення нарады, на якую будуць запрошаны старшыні раённых і абласных камітэтаў. Яна адбудзецца яшчэ да пачатку сесіі ВС. Вядома, рэаліі ў рэспубліцы змяніліся і, мяркуючы па ўсім, пазіцыі кіраўнікоў выканаўчай улады раёна і вобласці будуць неадэкватнымі па многіх пытаннях.

## Экалагічны семінар

Праблемам змянення навакольнага асяроддзя і біялагічнага статусу прысвечаны быў польска-беларускі семінар, які праходзіў у Менску. Арганізавалі яго: Беларускі камітэт „Дзеці Чарнобыля" і Аддзел антрапалогіі і экалогіі Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі Навук Беларусі. У семінары ўдзельнічала прадстаўнічая дэлегацыя польскіх навукоўцаў.

## Авангардысцкі пленэр

Пад Віцебскам, на турыстычнай базе Ліпкі, адбыўся міжнародны пленэр „Малевіч — УНОВИС — Сучаснасць". Амаль на працягу месяца віцебскія мастакі з калегамі з блізкага і далёкага замежжа вялі своеасаблівае творчае спаборніцтва ў русле традыцыі авангардызму. Малевічаўскі пленэр быў арганізаваны з дапамогай і пры фінансавай падтрымцы Фонду Сораса ў Беларусі. У сярэдзіне верасня ў Віцебску адкрылася вялікая выстава па выніках пленэру.

## Заслаўскае золата

Золата і нафта, як вядома, падмурак працвітання дзяржавы. У Беларусі штогод дабываецца каля 2 млн. тон „чорнага золата", але гэтага, на жаль, не хапае для патрэб краіны. Зараз дабыты таксама першыя кілаграмы сапраўднага золата. У рэспубліцы налічваецца 20 радовішчаў золата з агульным запасам 50 тон. Цяпер ідзе здабыча золата пад Заслаўем.

## Будуць свае секс-шопы

Секс-індустрыя, звычайная на Захадзе і звыклая ўжо для многіх рэспублік былога СССР, у хуткім часе магчыма праявіць сябе і ў Беларусі. Міністэрствам аховы здароўя і Беларускай сексуалагічнай асацыяцыяй распрацаванае і зацверджанае ўжо часовае палажэнне, якое рэгламентуе ўвоз і распаўсюджванне на тэрыторыі рэспублікі прадукцыі сексуальнага прызначэння. Паступіла ўжо 39 заявак ад прыватных структур на адкрыццё секс-шопаў.

## Падарунак для тэлегледачоў

Унікальную магчымасць пабываць у вялікіх і малых гарадах амаль усіх еўрапейскіх дзяржаў атрымалі гледачы рэспублікі. Яе падарыла беларусам прадстаўніцтва Арганізацыі Аб'яднаных Нацый у Менску, якое прыняло рашэнне прафінансаваць удзел здымачнай групы Беларускага тэлебачання ў „маршы свету".

## Псеўдаміліцыянт-разбойнік

Разбойнае нападзенне на кватэру ў цэнтры Віцебска ажыццявілі тры грабежнікі. Адзін з іх быў апрануты ў міліцэйскую форму старога ўзору, што напэўна і збіла з толку гаспадара жылля. Бандыты пачалі вымагаць грошы, а затым выстралілі ў столь. Куля, якая адбілася ад бетону, трапіла ў самога нападаючага. Пакідаючы крывавыя сляды, злачынцы ўцяклі, забраўшы з сабою тры тысячы долараў, больш за мільён рублёў і залаты ланцужок.

## Незвычайнае пакаранне

Неардынарны спосаб расправы над агароднымі грабежнікамі прымянілі жыхары аднаго з прыгарадаў Оршы. У адчаі ад масавых набегаў на градкі, яны злавілі, раздзелі і пусцілі галышом дамоў няпрошаную зборшчыцу ўраджаю. У арганізатараў такога стрыптызу знайшліся і паслядоўнікі. Аднак на агародных грабежнікаў, нават калі гэта і прадстаўнік моцнага полу, ёсць, аказваецца, больш цывілізаваная ўправа. Па дванаццаці заявах у горадзе Оршы вядзецца расследаванне, спагнаць трэба 6,5 млн. рублёў страт. Выкрыццё гэтых злачынстваў справа зусім небезнадзейная. Трэба толькі паведамляць па гарачых слядах.

# ПАНАРАМА ГАРАДОЦКАЙ ГМІНЫ

(2)

### З мінулага Гарадка і аколіц

Асабліва памятная была забастоўка ў 1933 годзе. Перш за ўсё была гэта забастоўка салідарнасці з рабочымі беластоцкай фабрыкі Бэкера, якія акупіравалі завод і аб'явілі галадоўку. Гарадоцкія рабочыя дапамагалі іх сем'ям. Ездзілі па навакольных вёсках і збіралі харчовыя прадукты.

Сцяпан Лісоўскі, Уладзімір Грыцук, Аляксандр Грэсь, Аляксандр Парфянюк, Язэп Бурса і іншыя гарадчане ў 1933 годзе арганізавалі забастоўку лясных рабочых, удзельнічалі ў першамайскіх дэманстрацыях. Сядзеннічала гэтаму цяжкае эканамічнае становішча рабочых і сялян.

У гісторыі Гарадка важны быў 1915 год. Быў гэта перыяд абсурднай вандроўкі — „бежанства". Страх перад немцамі прымушаў людзей пакідаць дамы, запрагаць коней і ўцякаць у Расію. Уцякалі не толькі рабочыя заводаў, гаспадары, уцякала з імі і духавенства. Абозы бежанцаў цягнуліся на ўсход. Ехалі на фурманках і вярхом. Гналі з сабою быдла і авечак. Паваротная хваля бежанцаў зноў апынулася ў Гарадку ў 1922 годзе.

Як жа было з асветнымі справамі, навучаннем?

Першую царкоўную школу ў Гарадку адкрылі ў 1863 годзе і вучылася ў ёй 40 дзяцей. У 1879 годзе вучняў было тры разы больш. У 1884 годзе ў Валілах, Меляшках і ў Пяньках ды ў 1887 годзе ў Каралёвым Мосце дзейнічалі школы граматы. Школы існавалі таксама ў Белявічах, Дзерняковe, Залуках і Случанцы. У іх вучылася 172 юнакоў і 25 дзяўчат. Гэтых апошніх бацькі неахвотна пасылалі вучыцца.

Як вядома, у 1863 годзе пачалося студзеньскае паўстанне. У сутычцы з царскімі войскамі пад Гарадком праявіў геройства Валерый Врублеўскі, настаўнік лясной школы ў Саколцы, пазнейшы генерал Парыжскай камуны. Паўстанцы ўдзельнічалі ў бітве з пераважаючымі сіламі праціўніка, якімі камандавалі палкоўнікі Пірагоўскі і Пэнхэжэўскі. У той час, гэта значыць 29 красавіка 1863 года пацярпелі паражэнне, але не падалі духам. Да паўстанцаў прылучаліся ўсё новыя добраахвотнікі.

### Гісторыя Гарадоцкай парафіі

Першая драўляная царква ў Гарадку была пабудавана каля 1490 года. Знаходзілася яна побач замка на тамашнім узгорку гарадзішча. На гэтай абарончай тэрыторыі заснаваў яе князь Аляксандр Хадкевіч.

З таго часу, калі будынкі драўляных цэркваў хіліліся, іх рамантавалі або ставілі новыя. У Гарадку зараз будзе чацвёрты або нават пяты па чарзе храм. У другой палове XIX стагоддзя царква была таксама драўляная. Захаваліся дакументы пра частыя рэчавыя ахвяраванні ў той час. І так, у 1863 годзе царква атрымала срэбны пазалочаны прычашчальны камплект і ў 1866 годзе — чатыры званы. Некалькі гадоў пазней ахвяравалі вялікі аздоблены падсвечнік ды дзве іконы ў пазалочаных рамках: Нараджэння Прасвятой Дзевы Марыі і святога Мікалая. З Маскве прывезлі дадзеную раней да аднаўлення ікону Божай Маці, намаляваную ў XVI стагоддзі (была гэта копія іконы з віленскага манастыра Святой Тройцы).

Гэтую царкву ў 1789 годзе заснаваў генерал Патоцкі. Званіцу пабудавалі побач яе ў 1858 годзе. Варта адзначыць, што асабліва тут паважалі ікону Божае Маці, якую рэстаўраваў у Маскве Якаў Ручкін, пры выдатнай фінансавай дапамозе фабрыканта К. Дзямідава ды мясцовых парафіян. Другой не менш цэннай была ікона Прасвятой Багародзіцы, маляваная на дошцы, з арнаментамі, у срэбнай рызе, якую ў палове XVIII стагоддзя ахвяраваў тадышні духоўны Ян Дубоўскі.

У 1889 годзе Гарадоцкая парафія налічвала 4225 чалавек (у тым ліку 2154 мужчыны і 2071 жанчына), пражываючых у 15 мясцовасцях: Гарадок, Белявічы, Валілы, Глейск, Дзернякова, Залукі, Зарэчаны, Юзэфова, Капцы, Каралёвае Стойла, Меляшкі, Пяшчанікі, Пілатоўшчына, Пянькі і Случанка. Апрача парафіяльнай царквы ў Гарадку была яшчэ цэркаўка Пакроў Прасвятое Багародзіцы на тамашніх могілках, пабудаваная ў 1862 годзе ды царква св. Аляксандра Неўскага ў Янаполі (цяпер гэтая мясцовасць называецца Каралёвы Мост), асвячэнне якой адбылося 21 лістапада 1870 года.

Пры чарговай люстрацыі Гарадоцкай парафіі ў 1892 годзе зарэгістравалі 1905 мужчын і 1931 жанчыну, якія пражывалі ў 473 дамах. Для параўнання: у 1910 годзе ў парафіі пражывала: у Гарадку — 669 праваслаўных, у Меляшках (вёска і прысёлак) — 643, у Валілах — 593, у Белявічах — 405, у Случанцы — 352, у Зарэчанах — 290, у Дзернякове — 222, у Юзэфове — 74, у Каралёвым Стойле — 70, у Капцах — 30 і ва ўрочышчы Глейск — 22.

У 1926 годзе, тады ўжо пару гадоў пасля вяртання з бежанства, парафія ў Гарадку мела 4137 вернікаў і ў яе састаў уваходзілі таксама царква ў Каралёвым Мосце ды тамашнія прыхаджане. Тады найбольш праваслаўных пражывала: у Гарадку — 550, у вёсцы і на калёніі Меляшкі — 474 (394 + 80), у вёсцы і на калёніі Валілы — 395 (334 + 61), у Белявічах — 242, у Залуках — 238, у Дзернякове — 222, у Случанцы — 212, у Навасёлках — 211, у Барках і Біндзюзе — 204, у Зарэчанах — 196, у Грыбаўцах — 189, у Калодне — 159, у Радуліне — 145 і ў Пяшчатцы — 129 ды ў Пераходах — 113. Малымі вёскамі былі тады Каралёвы Мост — усяго 35 жыхароў, Засады — 39 і Даўнева — 38. Існавала яшчэ вёска Руда, у якой пражывала трынаццаць чалавек.

Дванаццаць гадоў пазней — у 1938 годзе дэмаграфія ў некаторых вёсках Гарадоцкай акругі рэзка змянiлася — жыхароў прыбывае. Перш-наперш у Валілах — 461 асоба і ў Дзернякове пражываў ужо 271 чалавек. Значна павялічылася колькасць жыхароў у Случанцы.

У міжваенны перыяд Гарадок меў сякую-такую прамысловасць: былі невялікія тэкстыльныя фабрыкі, шкіпінарапрерагонны завод, сталярня, кафлярня а таксама цагельня. Апошняя з іх пад мястэчкам, у суседніх Зарэчанах (на мясцовай гліне). У той час галоўная вуліца мястэчка бегла з усходу на захад, на даволі доўгім яе адрэзку паралельна да цячэння рачулкі Дзернякоўка.

У час другой сусветнай вайны мястэчка было разбуранае ў 70%, а мясцовыя прамысловыя аб'екты цалкам зруйнаваны. Гітлераўцы рабілі ўсё, каб насельніцтва знявоціць і падпарадкаваць „Вялікай Германіі" і такім чынам забяспечыць сваё панаванне. Праводзілі арышты сярод мясцовых жыхароў. Між іншым 10 красавіка 1942 года гестапаўцы расстралялі чатырох партызанаў, а сярод іх савецкага афіцэра Сяргея Лёўкіна, які сарганізаваў партызанскі атрад у навакольных лясах ды жыхара адсюль родам Сцяпана Храноўскага. Вясною 1943 года фашысты расстралялі 36 чалавек. У тым жа годзе згарэла царква ў Гарадку...

*(працяг будзе)*

**Янка Целушэцкі**

# ЯК НА БЕЛЬСК, СПАКОЙНА

Так можна сказаць пра 4-ю сесію Гарадской рады, якая праходзіла 30 жніўня. Радныя першы раз сабраліся ў новым месцы — Бельскім доме культуры — і першы раз не пасварыліся з-за бурмістра. Пра выбар галавы выканаўчай улады ў горадзе таго дня ўвогуле не было гаворкі.

Разглядаліся затое такія мала цікавыя для пабочнага наглядальніка справы, як падстава налічвання сельскагаспадарчага падатку, варункі продажу камунальных кватэр і велічыня надзелаў зямлі пад будаўніцтва для членаў жыллёвых кааператываў. Усе пытанні раней абмяркоўваліся ў камісіях, дык і прымаліся рашучай большасцю галасоў. Незразумелае для мяне толькі, чаму радныя гублялі цэнны час на красамоўныя, але мерытарычна пустыя выступленні. А потым галасавалі як быццам супроць самых сябе.

Рада не павысіла, як планавалася, цану білетаў на гарадскі транспарт, адтэрміноўваючы гэта на наступную сесію. Узраслі затое цана вады — 4 тысячы злотых за кубаметр у кватэрах і 6 тысяч на прадпрыемствах і ўстановах — ды кошт прыёму сцёкаў (гаспадарча-бытавых і прамысловых) — на 7 тысяч. Гэтае павышэнне будзе ўведзена 1 кастрычніка г.г.

Рэалізацыя пункту пасяджэння, якія датычылі назначэння ў на функцыі пачаткова таксама праходзіла гладка. Людзьмі з-па-за Рады былі папоўнены і, такім чынам, канчаткова сфармаваны пастаянныя камісіі Рады. Выбраны быў старшыня Камісіі па справах законнасці, парадку і публічнай бяспекі.

І толькі тады, калі прыйшла чарга на адкліканне членаў Гарадской управы, якія ў гэтай кадэнцыі не з'яўляюцца раднымі, у зале паявілася напружанне. Дзякуючы такому кроку, Рада — не адклікаючы бурмістра — магла б папоўніць Гарадскую ўправу новымі асобамі, якія адпавядалі б палітычнаму складу Рады. Нічога дзіўнага, што супраць рашуча выказалася апазіцыйная „Jedność". І... перамагла, бо большасная Бельская кааліцыя падчас галасавання падзялілася (10 радных выказаліся за тое, каб не адклікаць нікога з Управы, 8 — галасавалі супраць гэтай прапановы і 8 устрымаліся ад голасу).

Такім чынам, цэлая старая Управа горада застаецца на сваіх месцах. Адыдзе яна тады, калі будзе абраны новы бурмістр.

**М.В.**

# Верныя сябры „Нівы"

Хачу, як пісьманосец, коратка прадставіць чытачу людзей, якія ў абсягу маёй дзейнасці шчыра любяць і чытаюць газету „Ніву".

Пётр Кулік з вёскі Тафілаўцы чытае „Ніву" ад самога яе заснавання, быў яе пастаянным падпісчыкам. Цяпер газету купляе ў мяне. „Ніву" паважае таксама яго жонка Вера. Пра Пятра хочацца мне яшчэ дадаць тое, што майстар ён на ўсе рукі — столяр, каваль, добры механік, а таксама прыкладны гаспадар. У школе быў выдатным вучнем, але па прычыне хваробы бацькі не змог працягваць сваю адукацыю. Чалавек ён аднак, багаты ў жыццёвую адукаванасць і дасведчанне. Калі патрэбная мне нейкая ў жыцці рада, я менавіта да Пятра заходжу, каб пагаварыць.

У Тафілаўцах яшчэ некалькі маіх сяброў, якія чытаюць нашу „Ніву". Гэта Надзея Дзмітрук са сваім мужам Янам, а таксама іхні сын, які жыве ў Гайнаўцы. Займаецца ён электронікай — рамантуе тэлевізары і радыёпрыёмнікі. „Ніву" ў Тафілаўцах чытае таксама Анна Сцепанюк — мая сяброўка па школе, Ян Корч, яго брат Грыша ды Надзея Краўчук.

А цяпер пяройдзем у маю вёску — Дубічы-Царкоўныя. Тут да пастаянных чытачоў „Нівы" належыць Яўген Панфілюк з жонкай Аннай. Дзеці іхнія таксама, а адна дачка, Іаланта — выпускніца беларускай філалогіі, то ў свой час нават і працавала ў рэдакцыі. Нельга ў Дубічах забыць пра бабульку Веру Корх, якой ужо за 80 гадоў. Чытае „Ніву" спадарыня Надзея Несцярук — былая настаўніца ў нашай школе, цяпер на пенсіі. Яе сын Юры таксама чытае — цяпер у той жа школе выкладае ён гісторыю, добра ведае нямецкую мову. Яшчэ чытачамі „Нівы" ў Дубічах-Царкоўных з'яўляюцца бацюшка Віталій Гаўрылюк з матушкай Валяй і аграном Яраслаў Герасімюк.

У вёсцы Рутка „Ніву" чытае Пётр Багроўскі — чытае яе, як гаворыцца, да апошняй старонкі. Пётр не толькі інжынер, але і вядомы дзеяч на беларускай ніве.

У Тапарках чытачамі „Нівы" з'яўляюцца Сцяпан Мрук — выпускнік духоўнай семінарыі ў Варшаве, яго бацькі і сястра, Грыша Бобік (гаспадар), Іван Андрасюк (пенсіянер), Пётр Бобік (малады гаспадар) і Аркаш Бяроза (пенсіянер).

У Дубічах „Ніву" чытае яшчэ і шле ў яе свае допісы таксама падпісаны тут...

**Мікалай Панфілюк**

# Папраўка

**Паважаная рэдакцыя!**

Дзякую, што надрукавалі мой артыкул „Прашу прабачэння ў Васіля Петручука" („Ніва", н-р 35). Усё было б добра, калі б не апошні сказ: „І дзякую нашаму Андрэю Гаўрылюку, што дапамог мне ў гэтым...". Хаця я вельмі шаную і паважаю карэспандэнта „Нівы" Андрэя Гаўрылюка, але ў гэтай справе ён ні пры чым. Мяне пераканаў да неабходнасці пагаднення з Петручуком іншы Гаўрылюк, менавіта наш бацюшка, Віталій. У маім артыкуле сказ быў такі: *І сардэчна дзякую нашаму бацюшку Віталію Гаўрылюку....* Чаму вы дапусцілі такую памылку?

**Мікалай Панфілюк**

**Ад рэдакцыі:** Вы маеце рацыю, спадар Панфілюк. Нішто не апраўдвае нашай памылкі. Вас, айца Віталія і ўсіх чытачоў сардэчна перапрашаем.

# УДОД

Удод — гэта арыгінальная птушка, стракатая з вялікім чубам і доўгай, загнутаю ўніз дзюбай. Удод, якога на Беласточчыне часта называюць жыдоўскай зязюляй, а па-польску — дудэк, жыве ў акрытым асяроддзі, дзе лясы пераплятаюцца з палямі і лугамі. Вельмі любіць дуплястыя вербы, вольхі і бярозы. З цёплых краін удоды вяртаюцца ўжо каля 10 красавіка, большасць аднак прылятае пад канец гэтага месяца. Пасля прылёту самкі клічуць да сябе самцоў галосным пагукваннем, найчасцей рана і ўвечар. Гнездзяцца пераважна ў нізкіх дуплах, а калі яго не знойдуць, робяць гнёзды нават у кучах камення. Гняздо выслана сціплa; у ім толькі некалькі пярынак і сцяблінак сухой травы. Самка зносіць 5—7 маленькіх яечак, якія сама выседжвае на працягу 16 дзён. У той час самец прыносіць корм. Калі з'явяцца маладыя, самка астаецца ў гняздзе яшчэ каля 12 дзён і аграве свaім целам малых, а самец надалей прыносіць корм, цяпер ужо для цэлай сям'і. Пасля чатырох тыдняў маладыя пачынаюць лётаць і паступова вылятаюць штораз далей ад роднага гнязда. Маладыя не баяцца драпежнікаў, бо маюць арыгінальную зброю: іх задняя залозы выпрацоўваюць вадкасць, якая вельмі смярдзіць. Калі пагражае небяспека, малыя выстрэльваюць гэтую вадкасць у напрамку агрэсара; спрактыкавалі гэта на сабе многія нявопытныя арнітолагі.

Удоды кормяцца насякомымі, якіх вылаўліваюць з травы, зямлі або каровінага памёту. З'ядаюць таксама дажджавых чарвякоў, смаўжоў, а нават малых яшчарак.

**Андрэй Гаўрылюк**

# Новая школа ў Гайнаўцы

Ля ўваходу ў велічэзны, з шэрых пустакоў, будынак, грузавік звальвае прычэпу пяску, які шпарка (аж люба паглядзець) рассоўваюць, раўняюць людзі ў рабочых камбінезонах. Крыху збоку вуркаціць бетонамяшалка. Зямля вакол будынка разрытая, валяюцца кавалкі агароджы, якіхсьці трубаў, будаўнічых матэрыялаў. От, як то на будове.

Аднак сёння 1 верасня і паўз групы рабочых, з неад'емным вакол іх балаганам, сунуцца ў гэты будынак людзі з дзецьмі ў белых блузках. У руках кветкі. Так пачынаецца першы навучальны год у Пачатковай школе н-р 6 у Гайнаўцы, што на вуліцы Новаваршаўскай. Або, як там кажуць — на Мазурах.

**Дырэктар Ірэна Кулачэўская**, здаецца, — я ёй не здзіўляюся — асабліва не цешыцца непадзяваным госцем. „Мы сёння пачынаем працу, — тлумачыць яна, — але бачыце, што тут робіцца. На афіцыйнае адкрыццё давядзецца пачакаць сама менш месяц. Таму мы не запрашалі ніякіх гасцей, ні гарадскіх улад, ні асветных, ні журналістаў".

Усё-такі зусім без гасцей не абышлося. У школу завітаў **намеснік бурмістра Юры Семянюк**, які прывітаў дзетак, пажадаў ім усяго добрага і „як прадстаўнік улад горада запэўніў, што будуць прыкладзены ўсебаковыя намаганні, каб прыспешыць працэс пабудовы школы". Дзеткі з класаў I—III са зразуменнем ківалі галоўкамі, калі пачулі, што „залежыць гэта ад фінансавых магчымасцяў горада і дапамогі з Кураторыі".

Хаця школа вялікая, з прасторнымі заламі ды калідорамі, аднак, каб сабраць усіх вучняў за раз — месца не хапіла і навучальны год давялося пачынаць там два разы. Спачатку — а 9-ай гадзіне — тры першыя класы, а затым — а 11-ай — чатыры старэйшыя.

„Запісалася да нас 639 вучняў, — тлумачыць пані дырэктар, — з якіх утварылі мы 4 першыя класы, 3 — другія, па 4 — трэція і чацвёртыя, па 3 — пятыя і шостыя ды два сёмыя класы. Васьмікласнікі з нашай акругі засталіся ў сваіх старых школах. Найбольш вучняў у „шасцёрку" перайшло з Пачатковай школы н-р 1, бо Новаваршаўская вуліца, гэта былая акруга „адзінкі".

У будучыні праблем з дзецьмі не павінна быць. Школа пабудаваная ў новым мікрараёне Мазуры. У блоках рашучая большасць — маладыя сем'і.

У гэтым квартале, дарэчы, вельмі гладка даваўся для Беларускага выбарчага камітэта збор подпісаў за вылучэнне беларускіх кандыдатаў у Сейм і Сенат у 1991 годзе. Гляджу на спіскі вучняў. Большасць прозвішчаў на *-ук*, шмат на *-іч*, а калі і трапляецца на *-скі*, то такія, што нярэдка сустракаюцца і сярод беларусаў. Імёны, як вядома, цяпер ужо нічога не скажуць.

Дырэктарка на лінейцы заяўляе, што пятыя класы будуць вывучаць нямецкую мову, бо большасць дзетак гэтай мове вучылася ў сваіх ранейшых школах. Можна было б сарганізаваць навучанне англійскай мове — за грошы бацькоў — толькі што ў Кураторыі не хапае спецыялістаў па гэтаму прадмету. „Ёсць таксама магчымасць у класах II—VII запісаць сваё дзіця на неабавязковую беларускую мову. Але тут, зразумела, добраахвотнасць і ўсё залежыць ад вас, дарагія бацькі. Да 8 верасня запісы будзе збіраць настаўніца **Тамара Грыгарук**".

Колькі бацькоў запісалі сваіх дзетак на гэты неабавязковы прадмет, 1 верасня не ведалі дакладна ні пані дырэктар, ні філолаг **Тамара Грыгарук**.

„Сяброўка гаварыла, што з дзесяць, — кажа пані Тамара. — Я два месяцы буду замяшчаць настаўніцу гісторыі. Буду хадзіць па класах і запісваць ахвотных, але ўсяго не магу сама зрабіць. Добра, каб на сустрэчу з бацькамі прыйшлі ініцыятары з беларускага асяроддзя: Яўген Сачко і Міхал Байко. Мая ж роля навучаць дзетак, а не весці агітацыю сярод бацькоў".

Тое, ці ў школе будзе штат для настаўніцы беларускай мовы, залежыць ад колькасці вучняў, якія запішуцца на гэты прадмет.

Першая ўрачыстасць прайшла хутка і гладка. Першакласнікі пасля вайсковага загаду: „Baczność! Na prawo patrz!" і выслухання з хрыпучага магнітафона гімна (я ніяк не мог разабрацца, што гэта за мелодыя) — прысягалі: „Ślubuję być dobrym Polakiem..."

* * *

Калі разыходзіліся бацькі і дзеці, рабочыя таксама як быццам згубілі свой энтузіязм да працы. Змоўкла бетонамяшалка, а шнурочак з пяці мужчын накіраваўся ў бок недалёкай крамы.

**Мікола Ваўранюк**
**Фота аўтара**



*Для пешакласнікаў прысяга — гэта вялікая падзея.*

# МОЦНАЯ РУКА

Як кажуць старэйшыя, за санацыі, на забавах і не толькі, маладыя людзі часта біліся паміж сабою, пускаючы ў рух нажы або і іншыя жалезныя прадметы. У выніку гэтага былі і смяротныя ахвяры. Нават пасля вайны, што і я сам ужо помню, гэтая дзікая традыцыя працягвалася. Толькі чамусьці пры савецкай акупацыі (вызваленні Заходняй Беларусі) у 1939—41 гадах, як дарослыя так і маладыя хлопцы жылі паміж сабою „мірна". Відаць, людзі баяліся цвёрдай сталінскай рукі, Сібіры ды Салаўкоў. Таксама і пры гітлераўскай акупацыі да боек і нажоўшчыны не даходзіла. Напэўна, як у першым, так і ў другім выпадку былі выключэнні. Вось пра адно такое здарэнне і хачу расказаць.

У адной вёсцы па-п'янаму чалавек пакалечыў свайго суседа, на шчасце лёгка. Пакрыўджаны на другі дзень папёр пехатою ў Бельск, да нямецкага камісара. Паказаў там сваю рану, расказаў што ды як было. Камісар, выслухаўшы яго, сказаў: „Юж венцэй он тэго не бэндзе робіл". І адправіў чалавека дамоў.

Праз некалькі дзён камісар брычкай прыязджае ў гэтую вёску і ідзе да солтыса, каб ён склікаў жыхароў на сход на двары каля школы. Было лета і нейкае якраз свята. Людзі сышліся, а сярод іх і „герой нажа". Камісар паклікаў яго да сябе і запытаўся, ці гэта ён пакалечыў нажом свайго суседа. „Так пане камісар, я гэта зрабіў па-п'янаму", — быў адказ.

Тады камісар ідзе да плота, выбірае самую гнуткую лазовую абалясіну, выцягвае яе і прыказвае хулігану станавіцца на каленях ракам. І давай лупцаваць яго абалянскай, раз па спіне, раз па задзе. „Герой" крычаў не сваім голасам, потым нешта мармытаў, наканец страціў прытомнасць. З яго нагавіц пайшоў смурод. Калі ачнуўся, дык мусіў яшчэ сказаць голасна перад усімі прысутнымі: „Дзенькуе, пане комісажу, за справедлівы вырок". Камісар прыгразіў яму, каб нават не думаў адпомсціць суседу, забраўся і паехаў.

А гэты чалавек змяніўся, быццам „сем баб пашаптала". За нож ужо больш не браўся.

**Мікалай Панфілюк**

пакуль што невялікая, з'яўляюцца з таварам палякі, але рынак такі аграмадны, што колькі на яго не кінеш, прападае бясследна.

Садаводства ды экспарт садавіны ў Пецярбург або Рыгу з'яўляецца мінулым і будучым гэтай аколіцы. Глеба тут вельмі кепская для плуга, таму прыходзіцца яблыні саджаць. Нават калгас носіць імя Мічурына і меў калісь аграмадныя сады. Людзі і савецкім часам вазілі яблыкі цэлымі грузавікамі ў Ленінград і Рыгу, пакуль нейкі старшыня не загадаў высекчы сады пад корань. Невядома толькі, ці гэта было самадурства мясцовага чыноўніка, ці вынік праводжанай тадышнім сакратаром Машэравым палітыкі пабольшання прадукцыі мяса якім-небудзь коштам.

Селядковы думаюць павялічыць сад. Іван заводзіць школку-гадавальнік. За зароблены ў Пецярбургу грошы купіў „Жыгулі", „каб жонка адчула, што ёсць з гаспадаркі карысць", — жартуе. Рэшту схавалі на чорны дзень. Сад, вядома, родзіць праз два гады і сёлета неўраджай. Усё-такі Селядковы будуюцца. Іван сваімі рукамі ставіць прыбудову, у якой прадугледжана перш за ўсё ванная і туалет. Прыбудова фешэнебельная, спалучаная са старым домам адмысловай перголай. Іван мае таксама праект на гумно (6 х 18 метраў), але трэба грошай, каб купіць драўніну. Новых машын не купляе, бо кожная новая машына патрабуе клопату, які яму ўжо не пад сілу. Праўда, прыдаўся б камбайн, або прынамсі малатарня. Цяпер, скасіўшы ўсё касою і касілкай, трэба прасіцца ў калгасе, каб далі камбайн змалаціць збожжа. Дык дадуць, але невядома калі, можа і ў лістападзе. Да гэтага часу збожжа ляжыць у кучах на полі.

Наогул стаўленне улад да фермераў змянілася на лепшае. З саляркай і бензінам няма праблемы. Селядковы ўзялі вясною 1,5 млн. рублёў крэдыту на аднолькавых умовах як і калгас. Гэты крэдыт мусяць сплаціць да 15 верасня. Клопату з тым не будзе, сцвярджаюць.

Станоўча ставяцца да павышэння цэн на спажывецкія прадукты ў Беларусі. За жыта селянін дастае цяпер, у пераліку на долары 9—10 за цэнтнер, мяса: па нарыхтоўчых цэнах — паўдолара за кілаграм, а на рынку — долар, прычым свініна крыху даражэйшая за ялавічыну.

Новыя цэны бліжэй да справядлівасці, лічыць Іван. За тэхніку селянін мусіць жа плаціць па сусветных цэнах. Яшчэ 10 гадоў такой гаспадаркі вытрымалі б, але пасля ўсё правалілася б, бо машыны ўстарэлі, а новых няма за што купіць.

Абое Селядковы прагаласавалі ў прэзідэнцкіх выбарах за Пазьняка. „Доўга мы меркавалі, за каго галасаваць і як не глядзі, выходзіла, што толькі за Пазьняка, — кажуць згодна. — Я быў бы за Карпенку, калі б ён здолеў выйсці на выбары", — дабаўляе Іван. „Я за Пазьняка, хаця я руская, а ён рускіх не любіць, — кажа Святлана. — Усё ж такі краіну трэба ратаваць, калі ўжо так сталася, што нас раз'яднaлі..." „Гаворыць радыё Масква!" — перабівае яе са смехам Іван, які таксама рускі, але тутэйшы, дык я не ўпэўнены, ці яго ўласная жонка рускім лічыць.

Іван як селянін лічыць, што новае разнявольванне сялян непазбежнае. Мацуе яго ў гэтым веданне сітуацыі ў Літве. Паводле яго, гэта няпраўда, што ў Літве проста раскінулі калгасы і далі тым сельскую гаспадарку да заняпаду. Уся зямля там аброблена, быццам бы граблямі заграблена. Нібыта няма руху, а ўсё зжата, падчас як на беларускім баку камбайны каціліся яшчэ туды і сюды. Літоўскія сяляне стварылі акцыянерныя таварыствы і ў некалькі суседзяў узялі камбайны і іншыя машыны. Няма калгасаў і старшынёў, а парадак ёсць.

У Беларусі людзі таксама ўзяліся б за гаспадарку, але трэба ім стварыць дзеля гэтага ўмовы. Перш за ўсё трэба высветліць юрыдычную сітуацыю. Зямля, якую маюць Селядковы, не прыватнаўласніцкая, але дадзена ім у г.зв. пажыццёвае спадчыннае карыстанне. Прадаваць яе звычайна нельга. Да таго, усе помняць, дзе была чыя зямля. Вось прыехалі палякі бацькаўшчыну наведаць, а сярод людзей успалох: на зямлі гэтых палякаў дзве вуліцы новых дамоў пабудаваны.

Другая справа — гэта састарэласць вёскі. „Мае суседзі — каталікі, добрыя гаспадары, — кажа Іван. — Вось Вацак збожжа сабраў, невядома і калі. На жаль, у іх няма пераймальнікаў".

Пераймальнікам Івана будзе, магчыма, 15-гадовая дачка Ліка. Яна і на трактары ездзіць, і вярхом на кабыле не баіцца, хаця нядаўна ўпала і паламала руку. Просіць толькі бацькоў, каб сядло ёй купілі. Малодшая, Аня, дык больш задуменная, да кніжак схільная. „Кавалера для дзеўкі дык на вёсцы напэўна знойдзеце, горш з жонкай для селяніна", — дзялюся з Селядковымі вопытам Беласточчыны. Іван паглядае на майго 18-гадовага хросніка Юрку, вучня тэхнікума механізацыі сельскай гаспадаркі ў Супраслі, з якім увесь час вёў ён прафесійную дыскусію. Адразу відаць, якія думкі верцяцца ў галаве ў Івана...

Селядковы — відавочна, людзі незвычайныя. Тыповымі фермерамі іх ніяк не назавеш. З другога боку, хіба ж можа існаваць цяпер нехта такі, як тыповы беларускі фермер або проста селянін? У цэлым Браслаўскім раёне іх нямнога больш за дзесятак і ў кожнага з іх напэўна свой адметны лёс. Яны пачынальнікі, а кожную справу пачынаюць людзі незвычайныя. Дай Бог, тутэйшая пакалечаная зямля зноў пакрыецца садамі, а гаспадарка Селядковых стане тыповай для гэтай аколіцы. Пэўне ж доўга прыйдзецца гэтага чакаць, але так яно і будзе.

Чым часцей наведваеш Браслаўскую зямлю, тым больш яна да сябе цягне. Зноў пускаюць у яе карэнні яблыні і людзі.

**Алег Латышонак**

Зорка
старонка для дзяцей

## ЯК КАТЫ ВАРЫЛІ ЮШКУ

Сабраліся аднойчы каты і пайшлі на раку рыбу лавіць. Налавілі яны рыбы, кот Мітрафан запытаўся:

— Смажыць будзем ці юшку зварым?

— Юшку! — закрычалі каты. — Юшку!

Кот Мітрафан апусціў у кацёл печкуроў, кінуў туды рознай прыправы і сказаў:

— Няхай варыцца. А я прайдуся, адпачну трошкі.

Кот Базыль не вытрымаў, пакаштаваў з катла, сказаў:

— Солі, здаецца, замала, — і сыпануў жменю солі.

Кот Мікіта пакаштаваў і таксама сказаў:

— Здаецца, перцу замала, — і сыпануў жменю перцу.

Астатнія каты кінулі хто што мог з прыправы і паселі ў чаканні. Вярнуўся кот Мітрафан, пакаштаваў з апалоніка і скрывіўся:

— Здаецца, вады замала, — і лінуў у кацёл вядро вады.

А зварылася юшка, пабралі каты лыжкі — пачалі частавацца.

— Нясмачна! — першым сказаў кот Базыль.

— На сабаку выліць! — сказаў кот Мікіта.

— На мыла такога юшкавара! — абурыліся і астатнія каты і пакідалі лыжкі.

Кот Мітрафан ад крыўды адбегся ў кусты, пажаваў валяр'янкі і крыкнуў:

— Трэ было самім варыць!

І пайшоў у сяло. А каты да ночы гыркаліся, абвінавачваючы адзін аднаго.

З тае пары яны не дружаць, на рыбалку ходзяць паасобку і юшкі не вараць!

**Яраслаў Пархута**



*Успамін з канікул.* **Фота В. Кургановіча**

Помнікі архітэктуры Беларусі

## КАМЯНЕЦКАЯ ВЕЖА

У другой палове XIII стагоддзя ў архітэктуры Беларусі з'яўляецца новы тып абарончых збудаванняў — асобна размешчаная шматпавярховая мураваная вежа. Абарончыя вежы былі ў Брэсце, Гародні, Тураве, Навагрудку і іншых гарадах. Але да нашых дзён дайшла толькі Камянецкая вежа, пабудаваная ў апошняй чвэрці XIII стагоддзя. Яна знаходзіцца ў горадзе Камянцы Брэсцкай вобласці і стаіць на высокім беразе ракі Лясной. Зроблена вежа з вялікапамернай цэглы цёмна-чырвонага і жаўтаватага колеру, якая мае на адным з шырокіх бакоў баразны. Вышыня вежы дасягае 30 метраў, таўшчыня сцен — 2,5 метра, знешні дыяметр роўны 13,5 метра. Вежа, якая ў летапісе завецца „Камянецкі стоўп", мае магутны падмурак з вялікіх камянёў, перасыпаных дробным пяском.

Велічныя і мануменальныя вежавыя муры крыху звужаюцца ўверсе і не маюць ні вертыкальных, ні гарызантальных чляненняў. Вежа атрымала лёгкі схіл у бок вертыкальнай восі. Дзякуючы гэтаму будаўнічаму прыёму яна здаецца вельмі стромкай і значна большай, чым яе сапраўдны памер. Пры будаўніцтве Камянецкай вежы дойліды ўпершыню ў Беларусі выкарысталі элементы цаглянай готыкі: спічастыя прыёмы, нярвюрнае скляпенне з кранштэйнамі на пятым паверсе, тынкаваныя нішы, пояс з пакладзеных „на вугол" цаглін.

Вежа ўзвышалася над гарадскімі ўмацаваннямі і знаходзілася на высокім пагорку, які быў абнесены абарончым валам з драўлянымі канструкцыямі наверсе. Цяпер Камянецкая вежа ператворана ў філіял Брэсцкага краязнаўчага музея і стала месцам турысцкіх экскурсій.

**Алег Трусаў**

НАШЫ ГУЛЬНІ

## Недарэчнасці

Мэта гульні. Развіваць кемлівасць, здагадлівасць, хуткасць мыслення.

Змест. Найбольш знаходлівага вучня называюць вядучым. Ён водзіць пальцам па стале або палачкай па пяску і прыгаворвае якія-небудзь простыя словы, напрыклад:

— Цілі-цілі-цілі!
Цілі-цілі-цілі!

Усе ўдзельнікі дружна паўтараюць за ім:

— Цілі-цілі-цілі!
Цілі-цілі-цілі!

— Арол над гарой, — нечакана кажа вядучы.

Усе адразу ж паўтараюць:

— Арол над гарой!

Вядучы зноў нешта малюе пальцам і прыгаворвае:

— Цілі-цілі-цілі!
Цілі-цілі-цілі!

Дзеці паўтараюць:

— Воўк у лесе! — кажа вядучы.

Гульцы хутка і дружна паўтараюць:

— Воўк у лесе!

Пасля чарговай прыгаворкі вядучы гучна гаворыць:

— Птушынае капыта!

Усе павінны прамаўчаць, бязглуздзіцу паўтараць нельга. Той, хто следам за вядучым выкрыкне бяссэнсавыя словы, плаціць фант.

Гульня працягваецца. У канцы гульні фанты разыгрываюцца.

## СІГНАЛЫ НЕПАГАДЗІ

Непагадзь, перад тым як абрушыцца на наваколле, падае аб сабе характэрныя сігналы. Вось асноўныя з іх.

Вечарам становіцца цяплей, як было ўдзень.

Аблокі рухаюцца супраць ветру ці перпендыкулярна яму.

Ноччу няма расы.

Туман знікае да ўзыходу сонца ці падымаецца ўверх.

Дым ад вогнішча ці з коміна сцелецца гарызантальна.

Ластаўкі лятаюць нізка над зямлёй.

Вечарам сонца заходзіць за хмару.

## ДОБРЫ ХЛОПЕЦ ДЗІК

### 15 НА ЗАСТАВЕ (1)

У Гродна я прыехаў з растрывожаным сэрцам. З вакзала пазваніў дадому. Адказ не суцешыў, ветэрынар глядзеў Дзіка, прыйдзе і заўтра, але надзея малая.

Заставалася чакаць. Пачаў рыхтавацца да сустрэч з пагранічнікамі — клопат заўжды адганяе трывогі і непатрэбныя думкі.

Пайшлі да арганізатараў паездкі. Гаворка не вельмі доўгая, але грунтоўная. Мы так і папрасілі: расказвайце ўсё, што можаце, і падрабязна, быццам мы восьвось нарадзіліся на свет. Устанавілі маршруты, час наведвання застаў і — дзень пры канцы.

За адной размовай — другая. Паклікаў у абласны камітэт Сяргей Прытыцкі. Яму быў падхоплены падарунак: паштоўка-здымак — буйны твар юнака і надпіс па-польску: „Свабоду Сяргею Прытыцкаму!" Так камсамол Заходняй Беларусі адваёўваў некалі жыццё свайго таварыша з Гаркавічаў, над чыёй галавой вісела пакаранне смерцю.

Сяргей Восіпавіч пакруціў адозву, чамусьці патрымаў супраць святла.

— А я ўжо і забыўся пра гэта! — І нечакана разгаварыўся.

Успомніў бясконца доўгі дзень і яшчэ даўжэйшую ноч, праведзеныя без даху над галавою. Валячыся з ног ад зморы, галодны, пільнаваўся, каб не трапіць на паліцэйскае вока, блукаў па Вільні ў пошуках непраяўленай яўкі. Так і не знайшоў. У цемнаватай вулачцы — кінулася ў вочы шыльда фатаграфіі. „Можа, і ўсяе па мне памяці будзе" — абудзілася думка. Зайшоў, зняўся, а ўжо з турмы пераслаў сябрам квіт на атрыманне фота. Тыя адразу ж сабралі скупыя капейкі і надрукавалі паштоўку-адозву з патрабаваннем вызваліць паплечніка.

Упершыню мы выслухалі гэтую гісторыю, што вышэй за чалавечыя магчымасці, і, галоўнае, — з вуснаў яго самога, таго — ён як бы ажыў перад намі — адважнага хлопца.

У белы дзень мінуў дзесяткі пастоў, сотні шпікоў і трапіў у святое святых, панскі суд. Там мела адбыцца застрашальная працэдура працэсу над семнаццаццю рэвалюцыянерамі.

Апрануты ў афіцэрскі мундзір, лёгка, нібыта не праседзеў ноч на лаўцы ў скверы, наблізіўся пад самы бар'ер, дзе стаяў пракурор. Прытыцкі падышоў амаль усутыч. Стрэліў раз і другі. Павярнуўся і таксама павольна накіраваўся да дзвярэй.

Абудзіўся ўкамянелы суд, спахапілася варта. Пачалі страляць, але ўбезладзь, звалілі не адразу...

Перажываючы тую страшэнную хвіліну, мы слухалі не зварухнуўшыся. За вокнамі стала шарэць, з касцельных вежаў заблямкалі званы на імшу.

Каля гасцініцы чакала машына, рушым у госці да пагранічнікаў...

Машына бяжыць па ледзь прыкметнай нясліzкай дарозе, працёртай як быццам аднымі санямі. Зусім неспадзявана ў апалай шэрані паказваецца будынак, за ім другі — застава...

Тут на пачатку вайны жменька пагранічнікаў стрымлівала батальён, калі не больш, варожай пяхоты. Цяперашні начальнік заставы, хоць і малады яшчэ афіцэр, меў што расказваць пра клапотныя дні сваіх папярэднікаў. Дый зараз заслона цішыні і непарушнасці гэтых мясцін — уяўная, за ёю прыхавана нядрэмнае жыццё і служба.

*(працяг у наступным нумары)*

**Максім Лужанін**

Беларускія народныя інструменты

# ТРУБА

**Труба** — духавы музычны інструмент, вядомы ў Беларусі з XII стагоддзя. Трубы вырабляліся з хвоі, абкручанай бяростай, або бляхі і мелі даўжыню ад 1,5 да 2,5—3 метраў. Гукарад трубы — натуральны. Сігналы трубы — моцныя, заклікальныя — шырока ўжываліся пастухамі, паляўнічымі, лесарубамі. Труба выкарыстоўвалася ў час каляндарных абрадаў — „пад восень”, на гуканне вясны. Часам на трубе ігралі „для забавы”, выконваючы на ёй прасцейшыя танцавальныя мелодыі.

У наш час гэты народны інструмент усё часцей выкарыстоўваецца ў прафесійнай мастацкай практыцы. Кампазітар У. Солтан увёў ансамбль труб у оперу „Дзікае паляванне караля Стаха”. Гучанне труб абвяшчае аб адкрыцці масавых народных святаў.

# БАСЭТЛЯ

**Басэтля** — 3—4 струнны музычны інструмент, па форме і канструкцыі падобны да віяланчэлі або кантрабаса. Народныя музыканты Беларусі іграюць на басэтлі толькі смычком. Гук басэтлі — нізкі, моцны, грубы. Інструмент выкарыстоўваецца выключна як ансамблевы ў спалучэнні са скрыпкай і ўдарнымі (бубнам, вялікім барабанам), а ў некаторых рэгіёнах і з духавымі (гармонікам, кларнетам). Рэпертуар такіх ансамбляў, якія суправаджаюць вяселле, вечарынкі, уключае часцей за ўсё танцавальныя мелодыі. У наш час басэтля амаль не сустракаецца.

**Н. Яканюк**

Зірні навокал

## ПРА ШТО ГАВОРЫЦЬ ПРЫРОДА

Калі ідзеш па лясной сцяжынцы, бачыш вакол магутныя дрэвы, міжволі задумваешся: цікава, колькі ж ім гадоў? Аднак дакладны ўзрост іх можна вылічыць толькі па гадавых кольцах на зрэзаным ствале. Між тым узрост маладога сасонніку лёгка вызначыць нават на вока.

У маладых соснаў, што растуць на асветленым месцы, галіны адыходзяць ад ствала правільнымі ярусамі. У кожным ярусе яны тырчаць, як спіцы раскрытага парасона. Дрэўца мае як бы „паверхі” галін. Кожны год прыбаўляецца чарговы „паверх”. Значыць, колькі ў сасонкі „паверхаў”, столькі ёй і гадоў? Не зусім так. Патрэбна дадаць яшчэ гадоў пяць ці шэсць, бо ў першыя гады жыцця сосны вельмі малыя, ярусы галінак у іх яшчэ не ўтвараюцца.

Больш-менш дакладна можна вылічыць і ўзрост бярозы. Той, хто трымаў у руках кавалак бяросты, заўважыў, што яна слаістая. Кожны слой вельмі шчыльна злучаны з іншымі і не таўсцей за ліст папяроснай паперы. Бяроста нагадвае кніжку са старонкамі, якія зляпіліся. Кожная такая „старонка” вырастае на працягу аднаго года. Самыя старыя слаі бяросты знаходзяцца на паверхні ствала, а самыя маладыя — ля драўніны.

Цікавае ў прыродзе

# РАПУХІ-ВАНДРОЎНІЦЫ

Неяк у адной з брэсцкіх газет з’явілася нататка пад назвай „Рапухі-вандроўніцы”. У ёй паведамлялася, што жывая стужка рапух перагароджвала дарогу пры ўездзе ў вёску на Брэстчыне. Іх было каля тысячы, і яны вельмі спяшаліся. Здавалася, патоку не будзе канца. Ён пачынаўся недзе на ўскрайку далёкага лесу, перасякаў поле, дарогу і цягнуўся да хмызняку. Не дачакаўшыся, пакуль пройдзе гэтае „балотнае войска”, машыны паварочвалі назад і ўязджалі ў вёску з другога боку. Што гэта было?

На першы погляд усе амфібіі здаюцца падобнымі адна на адну, задня канечнасці ў іх даўжэйшыя за пярэднія. Перамяшчаюцца скачкамі, могуць поўзаць і бегаць. Яны дзеляцца на дзве групы: хвастатыя (трытоны) і бясхвостыя (рапухі і жабы). У жаб скура тонкая і вільготная, у рапух — бугрыстая. Земнаводныя ваду не п’юць, а ўцягваюць яе ўсёй паверхняй скуры. Пры больш уважлівым знаёмстве можна заўважыць, што яны адрозніваюцца разнастайнасцю памераў і афарбоўкі — зялёная, жоўтая, аліўкавая, шэраватая, бурая, цёмна-карычневая. Летам адных з іх сустракаем у вадзе, іншых — на сушы.

Усе земнаводныя размнажаюцца ў вадзе, самкі адкладваюць там ікру. Прыкладна 300 мільёнаў гадоў таму рапухі выйшлі з вады на сушу, нерастуюць у вадзе. Кожная адкладвае ад 4 да 10 тысяч ікрынак.

Апалонікі больш падобныя на малькоў рыб, чым на сваіх бацькоў. Кожны арганізм у сваім развіцці коратка паўтарае ўсе стадыі, якія прайшлі яго продкі. Вось жаба „ў дзяцінстве” і нагадвае рыб, але з цягам часу ў апалонікаў паяўляюцца канечнасці.

Праходзіць зіма, наступае веснавое цяпло, і амфібіі, якія зімуюць на сушы, імкнуцца да вадаёмаў. Часцей за ўсё такія перамяшчэнні адбываюцца незаўважана, як і непрыкметныя асеннія вандроўкі да месцаў зімовак. Але прамое ўмяшанне чалавека ў прыроду, асушэнне балот парушаюць біярытмы земнаводных, якія складваліся стагоддзямі. Відавочна, на Брэстчыне назіралася такая міграцыя рапух, што спяшаліся да вадаёмаў, каб адкласці ікру.

**А. Курскоў**

# НАРОДНЫЯ ЖАРТЫ

* * *

— Ну, як жа там ваш новы пан? Добры?

— Нічога сабе, толькі і бяда — мае вушы ў нагах.

— Якім жа гэта парадкам?

— А так: калі, гаворачы да яго, не нахілішся ажно да калень, дык нічагусенькі не чуе.

* * *

Хлапчук вёў на вяроўцы цяля, якое кідалася ва ўсе бакі. А тут якразураднік праязджаў.

— Ты чаму перада мною шапкі не здымаеш, хам?! — закрычаў ён на хлапца.

— Калі ж мае рукі занятыя, пане ўраднік. Злезьце, калі ласка, з воза, патрымайце цяля, а я шапку здыму.

* * *

Лысы суддзя дапытвае селяніна:

— Што прымусіла цябе не заплаціць падатак?

— Нічога не вырасла, паночку, — адказаў селянін, — зямля пустая.

Суддзя паказаў пальцам на зямлю і дадаў:

— Калі б ты, гультай, захацеў, дык і на пустой зямлі вырасла б што-небудзь!

Селянін паказаў пальцам на лысіну суддзі:

— А хіба на тваёй галаве, паночку, што-кольвечы вырасце, калі яна зусім пустая.

* * *

Прынесла бабуля адвакату кошык груш. Той бачыць, што гасцінец не вельмі, дый кажа:

— Нашто ты, бабка, прынесла? Тваё ж дзеткі зласавалі б.

— А дзеткі і так пабудуць. Я ім скажу — свіння з’ела.

* * *

— Ты куды спяшаешся?

— Лячу ў суд!

— Дык мы з табою не хутка ўбачымся.

— Чаму — я хутка вярнуся!

— Не, братка... Мой адзін знаёмы пайшоў туды на пару гадзін, а вярнуўся праз два гады.



*Першы раз выступае наймалодшы Гарадок.*

Фота М. Ваўранюка

Арсен Расцветнікаў

# ВЕРШАВАНЫЯ ЗАГАДКІ

* * *

Пагайдаў вятрыска нерат,
а рыбак — ні ўзад ні ўперад.
Точыць носік рыбалоў
на крылатых печкуроў.
Нерат сплёў рыбак без рук,
а завуць яго .....

* * *

Чарнавокая дзяўчынка
ваду носіць безупынку.
Зранку ў поле вылятае,
мліва жоўтае збірае.
Аж да вечара без стомы
месіць цеста ў цёмным доме.
Захацелася мне цеста —
не знайшоў ад болю месца:
вострай дзідай укалола,
так што свет сцямнеў наўкола.
Укалола не са зла,
бо імя ў яе .....

* * *

Хлопчык золатавалосы
без вушэй, вачэй і носа.
Есць усё і без разбору:
кнігі, вопратку, аборы.
Накармі ж яго вадой —
абрастае барадой,
і шыпіць, і завывае,
і заўчасна памірае.
Беражы сваю далонь,
бо абжора той — .....

* * *

На палетках белых-белых
жыта чорнае паспела.
Вачыма зжынаем,
мелем галавою
і багатым ураджаем
наталяемся душою.
.....

* * *

Ёсць верны сябар у мяне,
хоць ён заўсёды ў старане.
Ледзь падганю яго — бяжыць! —
ты паспрабуй яго злавіць.
Але спынюся і застыну,
і ён спыняецца ў хвіліну.
А стомлены іду дахаты,
ён наступае мне на пяты.
Малеча я — і ён малеча,
расту — і ён шырэе ў плячах,
але заўжды такі маўклівы,
а часам пудкі, палахлівы:
днём без мяне не ступіць кроку
і не баіцца толькі ў змроку.
За мною ходзіць дзень у дзень
маўчун і палахлівец-.....

* * *

У худое ягамосці
няма скуры, адны косці.
І хоць голасу не мае,
рот на пядзю разяўляе;
злосцю поўніцца ажно,
як убачыць палатно —
на кавалкі паласуе,
бо даўно з краўцом сябруе.
Ёсць імя ў той шаляніцы.
Здагадаліся? — .....

* * *

Пасярод блакітнай стромы
ззяе вогнішча без стомы,
ззяе, ходзіць над зямлёю
нетаропкаю хадою.
Лютай сцюжаю, на жаль,
не відно яго амаль.
Паглядзі ў аконца
і ты ўбачыш .....

* * *

Ціха дрэмле каля хаты
невялічкі дзед вусаты
і прадзе сабе ў ахвоту
без кудзелі й калаўрота.
І таму далі дзядулі
непашытую кашулю.
Раз бурчыць, бы калаўрот,
значыць, гэта будзе .....

# У ВАЛІЛАХ

25 жніўня г.г. тэатры „Жывое слова" і „Балаган" завандравалі ў вёску Валілы. Далёка яшчэ да вечара, калі пачыналіся сцэнічныя выступленні, у вёсцы павеяла святочным духам. Вуліца зашумела жыццярадаснай энергіяй гуляючых дзетак. Большасць іх прыехала сюды на канікулы да сваіх родных. Сёння чакала іх незвычайнае мерапрыемства, аб якім прыўзнята гаварылі дарослыя. Старанныя гаспадыні і гаспадары паспешліва спраўляліся са штодзённымі абавязкамі.

— Вы хоць заранёў не пачынайце, а то каровы падаіць не паспеем, — гаварылі з-за плота напатканыя цёткі, палічыўшы і мяне за вандроўнага акцёра.

На лаўках сядзелі ўжо пенсіянеркі, адшыкаваныя быццам у царкоўку. Праз вёску што і раз праляталі са свістам матацыклы, на якіх хлопцы са Случанкі (якія ўжо пабачылі тэатры ў сябе) расслаўлялі прыгажосць дзяўчат з вандроўных тэатраў. Не дзіва, што пры магазіне самыя нястрыманыя і нясмелыя кавалеры скарочвалі чаканне вінам „Smak". У вёсцы новых людзей заўсёды сустракаць цікава але і трывожна.

Выступленне пачалося а 19 гадзіне. Сцэнай стала прымагазінная пляцоўка. На дапамогу акцёрам прыйшла сама прырода. Над сцяной лесу, якая ахінала пляцоўку выплыў чырвоны месяц — поўня. У вёсцы брахалі сабакі, тармазілі машыны, лаяліся жулікі. Аб'яднаўшыся ў групы, сяляне чакалі.

— Дзе тут у вас дзяўчаткі могуць пераапрануцца? — клапаціўся галоўны „шэф" вандроўкі Янка Мордань.

— Вядзіце да Мішы, ён сам жыве, — намякалі жанчыны.

Вандроўны тэатр „хацеў пры людзях выглядаць прыгожа і акуратна", а то падумаюць, што нейкія кудлачы наехалі, — паяснялі мне менчукі.

Рэпертуар быў не надта адпаведны, як для вандроўнага тэатра — сацрэалістычныя сюжэты з беларускай літаратуры. Час ад часу паяўляліся і цікавейшыя п'ескі. Публіка па-рознаму ўспрымала акцёраў. Тыя, якім пашчасцілася стаяць побач самадзейнікаў, смяяліся і апладзіравалі. Шумна захапляліся ігрой нястомныя дзеткі. Іншыя губілі матывы, не праяўлялі энтузіязму. Сям-там сярод прышчатых маладзёнаў чутны і злосныя каментарыі.

— To co? Może po angielsku zaczniemy jeszcze gadać, — сычэлі нацыянальныя нігілісты.

— Do you speak English? — парыраваў Лёнік.

Самыя жыхары Валілаў былі сардэчныя і шчырыя. Пасля выступлення пачаставалі прыгажунь шампанскім. Загадзя „скінуліся" яны па 20 тысяч на ежу, напіткі. Прадаўшчыца, пані Ядзя, усім ахвотным фундавала каву, адкрывала на кожнае жаданне магазін, хвалявалася за поспех выступаючых на сцэне. У Валілах не парвалася эмацыянальная сувязь з суродзічамі з-за мяжы.

— Вы, дзеткі, можа з нашай вёскі будзеце. Па вайне ад нас многа ў Расею паехала. А мы ж таксама такія беларусы, як і вы, — гаварылі бабулі менчукам.

Пасля спектакля ўдзельнікі вандроўкі спявалі і „чыталі літаратуру" ў гасцінным доме Лёніка Тарасэвіча. Далучылі да кампаніі таксама прадстаўнікі вёскі — солтыс з жонкай. Энергічная „солтысова" не мала напрацавалася пры арганізацыі гэтага вечара.

* * *

Валілы-вёска налічвае 39 гаспадарак. Толькі 2 маладыя сям'і маюць маленькіх дзетак. У школу ходзіць усяго 6 дзяцей. Большасць насельніцтва складаюць пенсіянеры і пастарэлыя гаспадары. Ажно 15 хат пустуюць і толькі летам з'язджаюцца сюды дачнікі.

Праца на гаспадарцы тут нялёгкая, пераважаюць глебы 5—6 класаў. Людзі амаль ужо і забыліся пра штучныя ўгнаенні.

— Калісь ветэрынар траціў цэлы дзень, каб агледзець жывёлу ў вёсцы, а зараз жа ўсіх абыдзе ў 2 гадзіны. Збожжа сёлета таксама слабое, а на бульбу няма вялікай надзеі. Многія сяляне прадаюць свой лес. Карыстаюць з гэтага прыватнікі, бо ў лясніцтве кубаметр драўніны каштуе 900 тысяч зл., а ў сялян — 500 тысяч зл., — гаворыць „солтысова", Бажэна Адамчык.

У вёсцы зараз пракладаюць водаправод. Сям-там нехта будуецца. Вёска ганарыцца таксама мастаком сусветнай славы Лёнікам Тарасэвічам.

**У Залуках**

Энтузіястычна прывіталі жыхары Залукаў „Жывое слова" і „Балаган". Вандроўнікі выступалі ў Пачатковай школе. Зышлася маса народу. Тут наладзілася блізкая артыстычная сувязь паміж самадзейнікамі і публікай. Бурныя апладысменты, слёзы захаплення, палымяныя позіркі ў бок прыгажунь, гасціннасць і сардэчнасць вяскоўцаў — гэта заплата вёскі Залукі за вячэрнюю радасць. Амаль усе студэнты з Беларусі хацелі застацца тут назаўсёды.

**Ганна Кандрацюк**
**Фота Янкі Морданя**



*Пасля канцэрта выступаем для сябе.*



# Таварыства сяброў Гарадоцкай зямлі

„Таварыства — гэта арганізацыя, якая ўзнікла з патрэбы і грамадскай ініцыятывы. Гуртуе яно ў сваіх радах асобы, якія добраахвотна актыўна дзейнічаюць у карысць усебаковага развіцця Гарадоцкай зямлі.

Мэтай дзейнасці Таварыства з'яўляецца падтрыманне гістарычнай традыцыі рэгіёна, развіццё яго культуры і забеспячэнне яму годнага месца ў жыцці ваяводства і краіны".

Столькі са статута. **Старшыня таварыства, мастак Лявон Тарасэвіч**, расказвае: „Заснавалі мы нашу арганізацыю 18 мая. Штуршок да гэтага даў нам **Сакрат Яновіч**, які напярэдадні вярнуўся з Беларусі і гаварыў пра ўзнікненне Згуртавання навагрудцаў свету. Нас такая ідэя зямляцкай арганізацыі вельмі зацікавіла, у канцы канцоў Гарадок таксама калісьці належаў да Навагрудскага ваяводства. Ну і якая гісторыя ў нас, якія традыцыі — не толькі „Чырвонага Гарадка".



*Старшыня — Лявон Тарасэвіч.*



*Канцлер — Аліна Цітко.*

Таварыства сяброў Гарадоцкай зямлі было зарэгістраванае 30 чэрвеня г.г. Найвышэйшай уладай таварыства з'яўляецца Кангрэс сяброў арганізацыі. Выканаўчая ўлада ў руках Галоўнай управы, якая выбіраецца на чатыры гады Кангрэсам. Склад цяперашняй Галоўнай управы наступны:

— **намеснік старшыні — Раман Шэрамэта,**
— **канцлер — Аліна Цітко,**
— **грашавы — Аляксандр Карпюк,**
— **сябра Галоўнай управы — Дарота Сульжык.**

Галоўная управа — як і сама арганізацыя — маладая. „Спазнаннем сваёй мінуўшчыны ў нас зацікавіліся перш за ўсё маладыя людзі, — кажа старшыня, — старэйшыя неяк тут больш пасіўныя. Але я думаю, што і яны з цягам часу падключацца да нашай ініцыятывы. І не толькі ўраджэнцы ці жыхары Гарадка, бо тут жа наша агульная спадчына. Трэба сабе ясна сказаць, што без Гарадка, без Дому Хадкевічаў не было б ні Супрасля, ні друкаванага слова ў Заблудаве. Тут, у Гарадку, пачыналася наша гісторыя".

Чым адрозніваецца Таварыства сяброў Гарадоцкай зямлі ад іншых зямляцкіх арганізацый?

„Нашае таварыства такое ж, — адказвае Лявон Тарасэвіч, — як Згуртаванне навагрудцаў свету, як таварыствы — калі яны ёсць — сяброў Бельска, Гайнаўкі ці Міхалова. Мы ад іншых розімся толькі тым, што юрыдычна засцераглі сабе двухмоўе. Побач польскай, афіцыйная мова ў нас — беларуская".

**Мікола Ваўранюк**

# ВАНДРУЕМ, ГУЛЯЕМ У ТЭАТР І РАДУЕМ ЛЮДЗЕЙ

Нядзеля, 21 жніўня. Станцыя Зубкі. З цягніка сыходзіць група людзей з рукзакамі. Гэта ў большасці моладзь з Менска, але ёсць таксама некалькі чалавек з Беласточчыны.

Вось, у гэтым годзе ад вёскі Зубкі пачалі сваю вандроўку самадзейныя тэатры: „Жывое слова" з Менска і „Балаган" з Беластока.

Чацвёртая супольная вандроўка ўпершыню адбудзецца па вёсках гміны Гарадок. Людзі часта пыталі нас: „Што гэта такое? Ходзяць па вёсцы, спяваюць, а вечарам паказваюць нейкі тэатр?" Людзі вельмі цікавіліся намі, хацелі ведаць, скуль мы прыехалі і куды ідзем, а таксама, чаму так рэдка наведваем іх вёску.

— А ці ў наступным годзе зноў да нас прыедзеце? — пыталі вяскоўцы.

— Ведаеце, чакаюць нас іншыя вёскі... — адказвалі юныя акцёры. — Праз пяць гадоў, як абыдзем усю Беласточчыну, тады зноў вас наведаем.

— Праз пяць гадоў многіх з нас ужо не будзе, — уздыхалі сяляне.

Людзі ў вёсках вельмі шчырыя і сардэчныя. Бывала, што цяжка было паверыць сваім вачам, калі бачылася вялізарны стол, застаўлены быццам на вяселле. І гэта ўсё з думкай пра нас. Атрымалася так, што мы прыносілі людзям спажыву для душы, а яны для нас — падмацаванне для цела.

Весці пра вандроўны тэатр разышліся па навакольных вёсках яшчэ да нашага прыходу, дзякуючы прарочым словам аднаго з арганізатараў: „... скажыце, калі ласка, у наступнай вёсцы пра тое, што ходзяць такія, якія робяць тэатр і якіх трэба накарміць і пераначаваць. Бо калі вам падабалася, то няхай і іншыя скарыстаюць з нашай прысутнасці. А калі не падабалася, то няхай і наступныя вёскі, так як і вы, памучацца з намі...".

Гэтыя словы падзейнічалі як заклянцце. Людзі з удзячнасці за радасць, якую тэатр унёс у іх жыццё, прымалі нас вельмі цёпла і сардэчна. Бывала, што калі на другі дзень мы выходзілі з вёскі, у нас складалася такое ўражанне, што пакідаем там старых і вельмі добрых знаёмых.

І вось так мы вандравалі цэлы тыдзень, ад вёскі да вёскі, дарылі людзям хвіліны радасці, нашае „вандроўнае слова". А калі мы адыходзілі, у паветры гучалі нейкі час словы нашай песні: „... мы яшчэ сустрэнемся з вамі..."

Вандраванне закончылася. Засталіся цёплыя ўспаміны і надзея, што праз год чакае нас новая вандроўка, новыя спектаклі, новыя вёскі і новыя цудоўныя людзі.

**Аня Адамік**

# ІКОНЫ

**Частка II**

Выманьваннем старых ікон ад беларусаў з усходняй Беласточчыны займаліся не толькі цыганы. Я сам, знаходзячыся ў Бандарах, быў аб'ектам націскаў з боку гандляроў, якія трактуючы мяне як селяніна, настойліва, а нават настырна пераконвалі, каб пусціць іх на падстрэшша, у пуню і ў свіран, бо яны хочуць пашукаць „старых непатрэбных" ікон.

Выманьваннем займаліся таксама беларусы. Гадоў восем таму назад жыхары Гарадка расказвалі мне, як мясцовы лекар-беларус, ездзячы па вёсках і наведваючы хворых, асабліва пенсіянераў, выцягваў ад іх іконы, старыя насценныя гадзіннікі і іншыя антыкварныя прадметы. Як вядома, пусташэнне ўсходняй Беласточчыны з праваслаўных драўляных ікон, датычыла не толькі паасобных хатаў у беларускіх вёсках, але і амаль усіх усходнебеластоцкіх цэркваў.

На ўсім абшары ўсходняй Беласточчыны мала такіх цэркваў і капліц, якія не былі абкрадзены. Некаторыя з іх абкрадаліся па некалькі разоў.

Звяртае на сябе ўвагу выключная пасіўнасць даўняй міліцыі і сённяшняй паліцыі. Аграмадная большасць пакражаў ікон не высветлена і злачынцы не пастаўлены перад судом. Праўдападобна ў некаторых выпадках царкоўныя ўлады ўвогуле не заўважылі пакражаў і не інфармавалі аб іх міліцэйскіх органаў. Так думаць дае мне падставу сітуацыя ў маёй роднай царкве ў Юшкавым Грудзе. Памятаю, што ў першыя пасляваенныя гады было ў ёй многа ікон на дрэве. Сёння няма там такога тыпу ікон. Пры гэтым я ніколі ад нікога не чуў аб тым, што царква ў Юшкавым Грудзе была абкрадзена. Можна думаць, што злодзей непрыкметна выносіў па адной іконе і такім чынам апустошыў святыню. Гэтаму маглі спрыяць вельмі частыя перамены ў Юшкаўгрудскай парафіі.

Не ведаю, калі была праведзена дакладная інвентарызацыя ікон, крыжоў і іншых сакральных каштоўнасцей ва ўсіх царкоўных аб'ектах. Аднак вядома, што ў апошніх гадах зроблены сур'ёзны крок наперад у галіне забеспячэння цэркваў, манастыроў і капліц ад зладзеяў. Месяц таму я быў у вёсачцы маёй жонкі — Козліках, у якіх знаходзіцца невялікая сімпатычная царкоўка. Царкоўка гэта была некалькі гадоў таму абкрадзена. Аднаго вечара да хаты маіх цесцяў даляцелі дзіўныя гукі. Аказалася, што былі гэта гудкі сігналізацыі з мясцовай царкоўкі. З гэтага вынікае, што нават невялічкая царква ў Козліках мае сёння сігналізацыю. Мабыць гэта заслуга святара з Кленікаў, а. Аляксандра Высоцкага, які карыстаецца ў Кленіцкай парафіі вялікай папулярнасцю. Зразумела, што сігналізацыя — гэта адна з найлепшых форм забеспячэння храмаў ад зладзеяў. Пашана і павага тым святарам, якія карыстаюцца гэтым эфектыўным спосабам ратавання нашага нацыянальнага багацця.

Не ведаю, ці існуе дакладная статыстыка ўкрадзеных ікон. Калі б яна існавала, даведаліся б мы, што размеры страт у гэтай галіне страшэнныя.

Куды дзяваюцца крадзеныя іконы? Пэўная іх частка распыляецца па ўсёй Польшчы. Трапляючы найчасцей у рукі розных калекцыянераў і аматараў даўніны. Аднак найбольш каштоўныя з іх нелегальна перапраўляюцца праз мяжу і трапляюць у Заходнюю Еўропу ды ў Амерыку, дзе праваслаўныя іконы сталі аб'ектам інтэнсіўных пошукаў як з боку прыватных калекцыянераў, так і з боку музеяў.

Так ці інакш, наша беларускае багацце трапляе ў чужыя рукі назаўсёды.

**Алесь Барскі**





**BIAŁOKOZOWICZ Bazyli:** Mikołaj Jańczuk jako badacz pogranicza polsko-wschodniosłowiańskiego. *Studia Polono-Slavica-Orientalia* 1992, t. 13, s. 67—85.

*Gawin Tadeusz*: Ojcowizna. Pamiętniki — 1987—1993. Odrodzenie polskości na Białorusi. Grodno 1993; Rec. **TOKARCZYK Andrzej,** *Nowe Książki* 1994, nr 2, s. 23—24.

**JAGIEŁŁO Michał:** Białoruskie poszukiwania Białorusi. Cz. 1—2. *Przegląd Powszechny*, nr 3, s. 337—346; nr 4, s. 81—99. Res.

*Karpaŭ Uladzimir*: Jazyk kak sistema. Minsk 1992; Rec. **KIKLEWICZ Aleś,** *Slavia Orientalis* 1993, nr 4, s. 590—593, rys.

**(KK):** Informacje o Białorusi i o stosunkach polsko-białoruskich. *Sprawy Narodowościowe* 1993, t. 2, z. 2, s. 207—215, mapa.

**KOMOROWSKI Jarosław:** Nieświeska nekropolia (Radziwiłłów). *Spotkania z Zabytkami* 1994, nr 3, s. 15—16, il.

**MERING Krzysztof:** Czwarta strona świata. (Współpraca przygraniczna z Białorusią). *Życie Gospodarcze* 1994, nr 2, s.18—19, il.

*Mironowicz Eugeniusz*: Białorusini w Polsce 1944—1949. Warszawa 1993; Rec. **SKROK Zdzisław,** *Nowe Książki* 1994, nr 2, s. 21—22, il.; **TARKA Krzysztof,** *Przegląd Powszechny* 1994, nr 3, s. 382—385.

**PALMOWSKI Marek:** Stosunki polsko-bialoruskie. *Rocznik Polskiej Polityki Zagranicznej* 1992, s. 145—150.

**POŹNIAK Telesfor:** Polacy w biaWoruskim odrodzeniu kulturalno-literackim. *Studia Polono-Slavica-Orientalia* 1992, t. 13, s. 7—39.

**POŹNIAK Telesfor:** Rudolf Abicht jako białorutenista. *Acta Universitatis Wratislaviensia, nr 1531, Slavica,* Wrocław 1993, t. 79, s. 15—30.

**RADZIK Ryszard:** Literackie źródła nowoczesnej białoruskości. Ref. *Przegląd Powszechny* 1994, nr 3, s. 325—336. Res.

*Sadowski Andrzej*: Narody wielkie i małe. Białorusini w Polsce. Kraków 1991; Rec. **MATELSKI Dariusz,** *Przegląd Zachodni* 1993, nr 3, s. 235-237.

**SIELICKI Franciszek:** Jedzenie i odzież w przysłowiach i powiedzeniach białoruskich z terenu b. powiatu wilejskiego. *Studia Polono-Slavica-Orientalia* 1992, t. 13, s. 131—140.

**SIELICKI Franciszek:** Biesiada w życiu i folklorze ludu białoruskiego. Ref. *Acta Universitatis Wratislaviensia, nr 1531, Slavica,* Wroclaw 1993, t. 79, s. 57-64.

**SOKOŁOWSKI Jan:** O białoruskich przymiotnikach z prefiksem *bez-*. *Rozprawy Komisji Językowej*, Wrocław 1993, t. 19, s. 111—116.

**SZACHOWICZ Michał:** Zagadka ludowa w warunkach polsko-białoruskiego pogranicza kulturowego. *Studia Polono-Slavica-Orientalia* 1992, t. 13, s. 141—162.

**ŚWIĄTEK Kazimierz:** Kościół jest powszechny. (Katolicyzm na Białorusi). Rozm. przepr. Adam Hlebowicz. *Lad* 1994, nr 21, dod. s. 1, il.

**TRACZUK Jerzy:** Prasa białoruska w II Rzeczypospolitej (1918-1939). *Studia Polono-Slavica-Orientalia* 1992, t. 13, s. 185—373.

**TURONEK Jerzy:** Działalność białoruskiego wydawnictwa „Zahlanie sonca i ŭ nasza akonca" w Petersburgu (1906—1914). *Sudia Polono-Slavica-Orientalia* 1992, t. 13, s. 41-66, il.

*Zaniewska Teresa*: Podróż daremna. Szkice o poezji białoruskojęzycznej w Polsce. Białystok 1992; Rec. **MATUSIAK Maria M.,** *Przegląd Powszechny* 1994, nr 3, s. 380—382.


**P.C.**

# Чаму археолагі не капалі ў Гарадку?

Гісторыя Беласточчыны ў параўнанні з іншымі рэгіёнамі Польшчы нагадвае чорную пляму. **Праф. Ежы** Крупэ з Інстытута археалогіі і этналогіі Польскай акадэміі навук у Варшаве назваў Беласточчыну „ўсходняй пустыняй". Меў ён на думцы стан доследаў сярэднявечча і пачатку новай гісторыі.

* * *

У мінулым годзе здавалася ўжо, што гэта зменіцца. Група гісторыкаў і археолагаў з Беластока, Лодзі, Гродна і Менска супольна сфармулявала тэму доследаў: **„Развіццё асадніцкіх працэсаў на зломе сярэднявечча ў заходняй частцы Вялікага княства Літоўскага. Вялікая зямельная ўласнасць між Нарвай і Нёманам".** Як першае для раскопак вызначанае было гарадзішча ў Гарадку.

*— Аб'ект гэты выбралі мы па двух прычынах, — кажа* **Барбара Мацюкевіч-Чарнэцкая.** *— Па першае, захаваныя пра яго ў архівах звесткі, працы і канцэпцыі гісторыкаў складваюць даволі салідную падставу, з якой можна пачаць доследы. Па-другое, ступень разбурэння аб'екта вельмі высокі. Знаходзіцца ён на абшары, які разбудоўваецца, што пагражае камплетным яго разрушэннем. Калі мы дамовіліся на Гарадок, быў ужо канец года і ўсе фінансавыя планы былі даўно складзены. Я тады звярнулася да пасла Артура Смулкі — члена сеймавай Камісіі культуры — і дзякуючы яго дапамозе Генеральны рэстаўратар помнікаў культуры прызначыў на раскопкі ў Гарадку 100 мільёнаў злотых.*

Грошы былі прызнаны Музею войска ў Беластоку, паколькі Музей выступаў як ініцыятар мерапрыемства. Барбара Мацюкевіч-Чарнэцкая тады была яшчэ працаўніком гэтага музея.

4 студзеня г.г. дырэктар Музея войска, Кшыштаф Філіпаў, накіраваў у Гмінную ўправу Гарадка ліст з просьбай, каб яна са свайго бюджэту выдзеліла 20 мільёнаў на планаваны гістарычна-археалагічныя доследы. Падрабязны каштарыс абяцаў ён даслаць яшчэ ў гэтым самым месяцы. Не выслаў дагэтуль.

* * *

*— Я выказала заклапочанасць лёсам праекта, — кажа* **пані Мацюкевіч-Чарнэцкая,** *— і ў сакавіку Ваяводскі рэстаўратар, Антон Аляксіейчык, накіраваў ліст дырэктару Філіпаву з пытаннем, што з рэалізацыяй праекта. Адказ атрымаў толькі ў ліпені, менавіта такі, што Музей войска не будзе гэтым займацца. Ваяводскі рэстаўратар быў толькі выканаўцам рашэння Генеральнага і самастойна не мог гэтых грошай перадаць каму іншаму. Тым часам, калі я заявіла ў музеі, што ёсць грошы на гэты праект, пачаліся мае асабістыя клопаты. Аб грошах мела я інфармацыю ўжо ў пачатку сакавіка, а ў пачатку мая прыйшло афіцыйнае рашэнне. І тады я атрымала вымову, а зараз потым мяне звольнілі з работы. Цяпер мая справа разглядаецца ў Судзе працы.*

У красавіку на рукі Барбары Мацюкевіч-Чарнэцкай прыйшоў ліст з Навуковага таварыства польскіх археолагаў, у якім выказвецца недаўменне, што можа быць змарнаваная такая каштоўная ініцыятыва. „Спадзяёмся, — чытаем у лісце, — што якісь унутраныя непаразуменні ў Музеі войска не паўплываюць на далейшы лёс такога цікавага навуковага мерапрыемства, значэнне якога не толькі вузкарэгіянальнае, але і важнае ў раскрыцці шырэйшай гістарычнай праблематыкі. Калі ўлічыць развіццё супрацоўніцтва з беларускімі даследчыкамі, дык такія супольныя мерапрыемствы — гэта найлепшы спосаб перамагаць бар'еры і будаваць партнёрскія стасункі ў розных галінах".

24—25 красавіка адбылася сустрэча даследчыцкай групы з Гміннай радай Гарадка. Тады была прынята пастанова, што кіраваць рэалізацыяй цэлай тэмы будзе д-р **Юзэф Марошак** — дырэктар Рэгіянальнага асяродка доследаў і аховы асяроддзя ў Беластоку. Рада гміны на раскопкі выдзеліла са свайго не надта багатага бюджэту 20 мільёнаў злотых. Археалагічныя працы ў Гарадку павінна была весці пані Мацюкевіч-Чарнэцкая. Экспедыцыя пад яе кіраўніцтвам павінна была адправіцца на месца 30 чэрвеня. У паразуменні з д-рам Марошкам два дні раней было прынята рашэнне аб прыпыненні экспедыцыі.

*— Для мяне рашэнне гэтае было вельмі балючае, —* прызнаецца **Б. Мацюкевіч-Чарнэцкая,** *— асабліва паведамленне Гарадку. Там была такая цудоўная атмасфера. Улады гміны і шырэй — грамадства — падышлі да справы з поўным зразуменнем. Дзякуючы такому зычліваму стаўленню, я атрымала шмат цікавых і вартасных інфармацый. З беспрацоўнай моладзі наладжана была група, якая мела дапамагаць пры раскопках.*

* * *

Занепакоенасць склаўшайся сітуацыяй, у лісце дырэктару Філіпаву, выказаў войт Гарадоцкай гміны **Яўген Семянюк.** Таварыства сяброў Гарадоцкай зямлі ўжо 4 ліпеня выслала дырэктару Філіпаву ліст, у якім, між іншым, чытаем: „Так рантоўнае спыненне археалагічных доследаў і звальненне з працы пані магістр Барбары Мацюкевіч-Чарнэцкай, з якою супрацоўніцтва ў нас атрымлівалася вельмі добрае, Таварыства сяброў Гарадоцкай зямлі ўспрыняло з вялікай насцярогай. Такая сітуацыя пагражае тым, што сарвуцца археалагічныя працы ў гэтым годзе і прызначаны на гэта грошы будуць змарнаваныя".

Лісты Кшыштафу Філіпаву накіравалі таксама прыватна **Лявон Тарасэвіч і Сакрат Яновіч.** Лявон Тарасэвіч выказаў сваё абурэнне спыненнем археалагічных прац на замкавай гары ў Гарадку. „Па-мойму, гэта варожы акт у адносінах да гісторыі і культуры, якой спадар дырэктар павінен быць абаронцам і прапагандыстам".

Дырэктар Філіпаў адказаў у адным лісце: „Музей войска ўжо гэтай справай не займаецца і ўсе пытанні трэба кіраваць д-ру Марошку".

* * *

Д-р Юзэф Марошак у пачатку верасня вярнуўся з Пецярбурга, дзе вёў архіўныя росшукі, між іншым і ў справе Гарадка. *Працы на гарадоцкай Замкавай гары будуць працягвацца, —* заяўляе ён. *— Была такая канцэпцыя, каб абавязкі арганізатара ўзяло на сябе Таварыства сяброў Гарадоцкай зямлі, але паколькі яно адмовілася, працу гэтую будзе выконваць Беластоцкае навуковае таварыства. Раскопкамі на замчышчы будзе кіраваць пані Мацюкевіч-Чарнэцкая. Дрэнна сталася, што быў упушчаны час — у гэтым годзе ўжо запозна на археалагічныя працы. Але прызначаныя грошы не змарнуюцца. Прасвідруем аб'ект дзеля вызначэння, у якіх месцах нам у будучым годзе капаць, забяспечым гэтыя месцы. Трэба таксама забяспечыць і апісаць знойдзены там раней матэрыял. Ну і далейшыя росшукі ў архівах.*

*Гэта вельмі важная, але і далікатная тэма. На польска-беларускім памежжы вырасла шмат міфаў і тут абодва бакі павінны праявіць максімум добрай волі і стараннаў, каб напісаць як найбольш шырокую і аб'ектыўную гістарычную панараму.*

**Мікола Ваўранюк**

# У НАРВЕ НА СПЛЕННЕ

З серыі фэстынаў, якія арганізуе штогод летам Беларускае таварыства разам з войтамі і гмінными самаўрадамі, 28 жніўня, на Успенне Божай Маці ці як кажуць тут людзі, на Спленне адбыўся фэстын у Нарве. Ад Нарвы ўсюды блізка, хваляцца тутэйшыя, — і ў Гайнаўку, і ў Бельск, і да Беластока недалёка. Дык не дзіўна, што людзей назбіралася адусюль і шмат. Сама Нарва лічыць паўтары тысячы жыхароў, а на фэстыне было мо нават каля тысячы. У малых мясцінах людзі святамі цешацца больш.

Фэстын адбыўся ў цэнтры Нарвы, на пляцы побач з будынкам старога дома культуры. Сёння ўжо толькі моладзь наладжвае сабе тут дыскатэкі, а культурным цэнтрам стаў новы Нараўскі асяродак культуры, інфармуе мяне дырэктарка Ірэна Шастай. Тут жа месціцца і гмінная бібліятэка.

Ну, і было на што паглядзець! Што ні гавары, а кожны фэстын гэта маленькае свята беларускай культуры. Шчыльным паўколам святочны, разнаколерны натоўп акружыў часовую сцэну, смяяўся, апладыраваў, жыва рэагаваў на ўсё, што паказвалі самадзейнікі-суседзі: калектыў „Цаглінкі" з Ляўкова, „Васілёчкі" з Бельска, гарадоцкі хор, „Тыневічанкі" з Тыневіч, „Казюкі" і „Рэаль" з Беластока, ды браты Юрка і Мірэк Астапчукі з Гарадка („Яшчэ! Яшчэ!", — крычалі гледачы, а хлопцы ім адказвалі: „Ой, людзі, то мы вам шчыра!"). Ну, і выступілі, вядома, мясцовыя калектывы: дзіцячы калектыў, што працуе пад кіраўніцтвам Е. Томзіка пры нараўскім „Пронары", ды дзіцячая танцавальная група, якая існуе пры Нараўскім асяродку культуры.

З цікавасцю аглядалі канцэрт і знатныя госці: беларускі консул у Беластоку Ігар Хадасевіч, паслы з Беласточчыны Сяргей Плева і Станіслаў Малішэўскі, галоўны рэдактар „Gazety Tygodniowej" Анатоль Вакулюк, войты суседніх гмін, настаўнікі і дзеячы Беларускага таварыства. Усіх іх вітаў новы войт Нараўскай гміны Янка Іванюк.

Як заўсёды, з гарачымі прамовамі выступілі старшыня ГП БГКТ Янка Сычэўскі і сакратар Таварыства Валянціна Ласкевіч, якая таксама вяла канцэрт, што працягнуўся ад 14 да 18 гадзіны.

А людзі не толькі слухалі канцэрт. Яны прахаджваліся, сустракаліся, голасна віталіся, цешыліся. Я ўсё непакоілася, што кепска, на самым рагу вуліцы паставіла самаход і буду мець клопаты з паліцыяй, але хто б тут крычаў сёння, калі такое свята!

Была нагода для людзей, каб дакупіць яшчэ нешта з беларускіх выданняў у хатнюю бібліятэку, бо Таварыства прадавала розныя беларускія кніжкі, а Мікола Гайдук і Янка Целушэцкі нават падпісвалі свае творы. Нейкі беластоцкі мастак (прасіў не падаваць яго прозвішча) парастаўляў свае карціны ды іконы каля хаты пры пляцы і нават, казаў, нешта прадаў.



*Дзеячы і артысты.*




*Гарадоцкія жанчыны ў жартоўным рэпертуары.*

Прыемна было адчуць, што людзі ў Нарве не толькі ведаюць „Ніву", але здаўна ды дакладна яе чытаюць. Па артыкулах гатовы пазнаць журналіста! Кажуць, што пры былым войце гміны Яну Тапалянскім пачалі рабіць ксеракопію „Нівы" і вывешвалі яе, каб кожны чалавек мог прачытаць.

Тут людзі наогул шмат чытаюць, пазычаюць кнігі ў гміннай бібліятэцы, кажа Ала Сёткоўская, кіраўнічка Гміннай бібліятэкі. У нас няма сярэдняй школы, дык толькі на нас людзі могуць разлічваць. Наша бібліятэка аб'ядноўвае бібліятэкі з Нарвы, Трасцянкі, Ласінкі і бібліятэчны пункт з Крыўца (у школе).

Спадарыня Ала запрашае пісаць у іхнюю гмінную газетку „Nowiny z gminy", якую выдае Нараўскі асяродак культуры тыражом у 80 экземпляраў. Можна пісаць па-польску, можна — па-беларуску, заахвочвае яна. Як хто хоча! Газета разыходзіцца поўнасцю. Галоўны рэдактар — Ліля Хіліманюк, інструктар Нараўскага асяродка культуры. Па адукацыі яна — інжынер-меліяратар, штудзіравала ў Варшаве. А піша хто? Хто хоча, але найбольш пішуць усе з Нараўскага асяродка культуры.

І яшчэ лічу, кажа Ала Сёткоўская, вялікай справай, што ўдалося нам дабіцца, каб агляды абрадных калектываў адбываліся ў Нарве пастаянна. Сёлета адбыўся такі першы агляд.

Спадарыня Ала цешыцца, што, хаця бывала на розных фэстынах — у Мельніку, Міхалове, Кленіках, дык гэты, у Нарве — найлепшы. І ў сэнсе арганізацыі, і выканання, і публікі, ну, і пагода цудоўная.

І я ёй веру, хаця на іншых фэстынах не была. Народ, аднак, расказвае. Бывае і так, што і чаем гасцей ніхто не напоіць. А тут, па ўсім відаць, арганізатары падрыхтаваліся салідна.

Артыстаў-самадзейнікаў вырашана пачаставаць бігасам з каўбаскай ля вогнішча над ракой. Тры жанчынкі ад культуры (сп.сп. Ала Сёткоўская, Ліля Хіліманюк ды Анна Андраюк-Савіцкая, таксама інструктарка Нараўскага асяродка культуры) завіхаюцца пры бігасе і стараюцца, як умеюць, развесяліць галоўных герояў урачыстасці — нашых славутых, шматгадовых самадзейных артыстаў. Ды што гэта такое? Калі, хуценька з'еўшы сваю порцыю, ад'ехалі „Васілёчкі", засталася зусім невялічкая жменька артыстаў. Зажурыліся яны, хаця „Рэаль" і прабаваў яшчэ нешта спяваць. А 19 гадзіне на лузе над рэчкай ужо амаль нікога не было. Дагарала прыгожае вогнішча, і а 19.30 нараўскія хлопцы прыбралі падрыхтаваныя лаўкі.

А можа людзям было ніякавата, бо ніводзін з начальнікаў не прыйшоў сюды і не пасядзеў з імі... Не пагутарыў, не папытаўся... а была ж такая нагода.

Начальства не мела часу: разам з запрошанымі госцьмі бавілася на банкеце ў „Пронары" доўга і добра — як і павінна быць на Спленне.

Спонсары, даўжэзны спісак якіх прачытала ў пачатку фэстына спадарыня Ласкевіч, былі шчодрыя, бо хапіла яшчэ і на штучныя кветачкі (прыгожыя) для калектываў.

Нашым жа людзам, ім што, ім нічога не трэба. Ім абы паспяваць далі, каб з усімі сваёй песняй падзяліцца...

**Ада Чачуга**
**Фота аўтара**

# Палац, якога ўжо няма

Царскі палац у Белавежы — гэта ўжо гісторыя. Памалу адыходзяць таксама людзі, якія яго памяталі, калі ён красаваўся на ўзгорку ў Палацовым парку. Палац астаўся толькі на здымках, паштоўках. Адзінай відавочнай памяткай па палацы з'яўляецца кухонная брама, праз якую ўвозілі харчы, дровы і іншыя прадукты.

Асталіся, менавіта, здымкі, паштоўкі... З нагоды сотай гадавіны здачы палаца ў карыстанне (жнівень 1894 г.) і паўвека з моманту яго знішчэння (ліпень 1944 г.) у памяшканні Прыродазнаўчага музея БНП адкрылася выстаўка здымкаў гэтага аб'екта. Экспануюцца здымкі даволі вялікіх памераў, так што відаць на іх шмат дэталяў.

Сам палац прадстаўлены на 15 здымках, выкананых з розных месцаў, пераважна знадворку. Толькі на адным здымку паказаны інтэр'ер палаца (банкетная зала). Іншы здымак, выкананы з даху, прадстаўляе краявід Палацовага парку ў напрамку Свіцкага дома, які згарэў у 1962 г. Згаданы парк быў закладзены ў 1895 г. і, як паказвае яго назва, акружаў галоўны аб'ект. На выстаўцы паказаны таксама фотакопіі двух планаў парку і перспектыўнага малюнка таго ж парку, выкананага Г. Дамброўскім.

Выстаўку адчыняе фотакопія малюнка (выкананы ён у 1821 г.) месца, на якім праз 68 гадоў пачне ўзводзіцца палац. Зачыняе экспазіцыю сучасны здымак фрагмента гасцініцы і рэстарана „Іва", пабудаваных у месцы, дзе раней высілася палацовая вежа.

На выстаўцы паказаны фотакопіі здымкаў і паштовак з прыватных калекцый ніжэйпадпісанага, Вольгі Лукашэвіч, Чэслава Аколава, а таксама збораў Белавежскага нацыянальнага парку і Дзяржаўнай службы аховы старадаўнасцей у Беластоку. Яны выкананы ў розныя перыяды (пачынаючы з пачатку XX ст., а канчаючы на 50-х гадах) Гельгарам, Краўскопфам, Карпіньскім, Даньдай і Карасевічам. Тры здымкі былі рэпрадукаваны з манаграфіі Белавежскай пушчы напісанай Г. Карцовым, а выдадзенай у 1903 г.

Выстаўцы, якая працягваецца з 23 жніўня па 2 кастрычніка г.г., спадарожнічае невялікая брашура-каталог, якую можна купіць у касе музея.

Выстаўку падрыхтаваў навуковы працаўнік БНП, Анджэй Кэчыньскі.

І, яшчэ пару слоў аб гісторыі палаца. Будавалі яго ў 1889—94 гадах па загаду цара Аляксандра III, які на жаль, доўга ім не пацешыўся. Пасля смерці Аляксандра III палацам карыстаўся цар Мікалай II, які спыняўся ў ім падчас царскіх паляванняў, арганізаваных у Белавежскай пушчы кожныя 3 гады (апошняе адбылося ў 1912 г.).

Першае зруйнаванне аб'екта наступіла ў час I сусветнай вайны. Польскія ўлады ў міжваенны перыяд хутка давялі палац да парадку. У ім на кароткі час уладкавалася адміністрацыя Белавежскага павета, потым музей і навуковая бібліятэка Нацыянальнага парку. Ад 1930 г. у палац штогод заязджаў прэзідэнт Ігнат Масціцкі, які ладзіў у пушчы г.зв. прадстаўнічыя паляванні. Некалькі год у частцы палацовых памяшканняў функцыянавала школа для леснікоў, а ў адной з больших залаў — рымска-каталіцкая капліца.

Падчас II сусветнай вайны немцы ўладкавалі ў палацы штаб Абвера. Ноччу з 16 на 17 ліпеня 1944 г., у выніку перастрэлкі паміж савецкім войскам і мадзярскім атрадам, увесь палац загарэўся.

Руіны палаца захоўваліся яшчэ доўга. На жаль, мясцовыя ўлады не зрабілі нічога, каб адбудаваць гэты аб'ект. У 1958 г. вырашана руіны разабраць (што зрабілі ў 1960—62 гадах), а на іх месцы збудаваць турысцкі комплекс „Іва". Гэтак і сталася!

Мне яшчэ стаіць у вачах разборка руін палаца. Мне тады было 10—12 гадоў. Памятаю, як моцныя былі муры і скольхі праблем мелі з імі сапёры. Шкада палаца! Гэтак зараз гавораць усе белавежцы. Нават і тыя, якія маглі заўпарціцца, каб яго не разбіраць, але адбудаваць. Што ж, не размахваюць пасля бойкі кулакамі!

Палаца няма і гэта факт! Засталіся толькі ўспаміны аб ім і здымкі...

**Пётр Байко**

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Астроне! Прысніўся мне вельмі дзіўны сон. Быццам два мае калегі па працы атрымалі новыя кватэры. Я іду туды, каб паглядзець, што гэта ўжо за такія кватэры. І сапраўды гэта нешта цудоўнае.

Я іду ў адну кватэру, а там быццам у нейкім старадаўнім палацы — сцены з вельмі прыгожай цэглы, уверсе цікавыя скляпенні, аздобленыя каляровымі пліткамі, якія выглядаюць, быццам нейкія фрэскі.

І вось я ўваходжу пад адно такое скляпенне. Раптам бачу, што лопаецца столь уверсе і з гэтага скляпення тыя цудоўныя пліткі ляцяць уніз. Але на мяне не трапляюць. Валяцца побач, мяне не кранаючы.

Тады я іду далей. Паўтараецца тое самае. Нязвыкла прыгожая архітэктура, але ізноў столь лопаецца і ўсё ляціць уніз. Ізноў ніводная цэгла не трапляе ў мяне, хаця разбурылася цэлая канструкцыя.

Што можа абазначаць гэты сон?

Аліна

Аліна! Абазначае ён, што нешта можа лопнуць у справах тых тваіх калег, якія ў сне атрымалі кватэры. Тыя пліткі, што валіліся са столі, цябе абмінулі, дык мо і клопаты цябе не будуць датычыць.

АСТРОН

## З ГАРАСКОПА ДРУІДАЎ

**РАБІНА** *(1—10 красавіка, 4 — 13 кастрычніка).* Кожны з нас ведае невысокае дрэва з пахучымі гронкамі белых кветак, вакол якіх заўсёды ўюцца пчолы і чмялі. Позна ўвосень і зімовай парой прылятаюць да яго чародкі птушак, прыбягаюць дзеці, каб паласавацца смачнымі пасля марозу ягадамі.

Рабіна звычайная, што расце ў нас, і блізкі ёй від рабіны сібірскай не баяцца маразоў і месцамі растуць нават за палярным кругам. Навуковая назва ўсяго роду — сорбус — паходзіць ад кельцкага слова сор — церпкі. Але жрацы гэтага племені не толькі каштавалі ягады рабіны. Яны вызначылі адпаведніка ёй — людзей, што нарадзіліся ў першую дэкаду красавіка і 4—13 кастрычніка. Яны прыгожыя, спакойныя, шчодра адораныя прыродай, але адначасова моцныя, стойкія і мужна супрацьстаяць жыццёвым бурам і віхурам. Няма ў іх эгаістычных намераў, яны прагнуць толькі прыцягваць да сябе ўвагу. Чалавек-рабіна любіць рух, неспакой і нават перашкоды і цяжкасці. Кантакт з такімі людзьмі ўсё ж нялёгкі, таму што ім не хапае прастаты. Друіды не раілі расчароўваць рабіну, бо гэтага яна не прабачыць.

*(працяг у наступным нумары)*

## З КУФЭРКА БАБУЛІ НАДЗЕІ

*(працяг;*
*пачатак у 21, 31, 33—36 н-рах)*

**(7)**

Працяг прыпевак, якія запамятала Надзея Руско з Белавежы.

**11**
Уха-ха, уха-ха,
чым я дзеўка плаха?
На мне спадніца новая,
сама я чорнабровая.

**12**
А машына па паску, па паску.
Ад Варшавы у Маскву, у Маскву.
А машына кругом, кругом.
Расстаюся з мілым другом.

**13**
Ой, уха-ха, уха-ха,
прымі маці прымака.
Як не будзе рабіці,
будзем за лоб вадзіці.

**14**
Ой, гуляй, гуляй гуляка.
Я табою не даражу.
Палюбі сабе другую,
я і слова не скажу.

**15**
Ой, іграй, іграчу,
то я табе заплачу.
Як сабачку прадам,
табе грошы аддам.

Запісаў ПЁТР БАЙКО

## ВІРАВАНКА

1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

1. высокі магільны насып, 2. поўны паварот цела на адной назе ў танцы, 3. там лекі, 4. цэнтр Хакаскай аўтаномнай вобласці ў Краснаярскім краі, 5. сталіца Турцыі, 6. горад над Волгай, 7. слова, якое гучыць аднолькава з іншым, але мае іншы сэнс, 8. посуд, на якім носяць ежу, 9. службовае месца, звязанае з выкананнем пэўных абавязкаў, 10. частка даху, 11. на каралеўскай галаве, 12. сакавіты трапічны плод.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 31 н-ра:**

**Гарызантальна:** полымя, Вардар, Сапега, кава, жэст, захапленне, горы, вата, Мікаян, казуля, кішлак.

**Вертыкальна:** полька, мяса, вага, артыст, пераплаўка, Вазары, Жэнева, готыка, тартак, міля, янкі.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Пятру Байко** з Белавежы і **Лукашу Пацэвічу** з Беластока.

*Сцяпан Абух*

# З запісаў нацыяналіста

### 3. Рынгебольда Хахло

— Адчыняааааю пасяджэнне Адзіііііінага Праааааведнага Суда горада Любагоооорска! — любасна праспявала Рынгебольда Хахло (*люб.:* Rhynkkeboltt Khakhloff). З усіх суддзяў у Любагорску яна была самай катэгарычнай у вырашэнні юрыдычных супярэчлівасцяў Зоны. Як і ўсе суддзі Любагорска, насіла на грудзях залаты ланцуг з такога ж колеру гербам горада на ім. (Афіцыйным гербам Любагорска, а таксама і Зоны, з'яўляецца Амур. Зонаўцы, аднак, сваім гербам сакрэтна прызнаюць Пегаса.) У адрозненне аднак ад іншых суддзяў яна забірала ў залу пасяджэнняў, акрамя неабходных паперынаў, мініяцюры шыбеніцы, гільяціны ды, выкананы пад заказ, адмысловай работы макет газавай камеры. Прылады гэтыя ставіла перад сябою на стол, любуючыся імі ў час працяглых працэсаў.

— Пасяджэнне датычыць справы „Асацыяцыя народнай песні і танца супроць „Гоняў", — дакончыла на той жа ноце Хахло. Свіснуў малаток. Трэба тут паясніць, што пасяджэнне суда, цалкам выняткова, праходзіла ў сядзібе Асацыяцыі народнай песні і танца. Апынуліся там, на выразнае пажаданне Рынгебольды Хахло, прадстаўнікі ўсіх юрыдычных арганізмаў Зоны, а „Гоні", як бок у працэсе, прысутнічалі поўнасцю. Асацыяцыя народнай песні і танца спрабавала ўвесці ў працэсовую залу групу танцораў, як тую неабходную крышачку мастацтва з выпадку, думалася ім, памыснага прысуду, але Хахло не дазволіла. Пільным сваім вокам згледзела, што пад народнымі вышыванкамі скрываюцца пісталеты ды халодная зброя.

Па-другое, трэба сказаць як дайшло да гэтай сустрэчы ўсіх зонаўскіх арганізмаў перад абліччам Адзінай Справядлівасці Любагорска. Я ўжо згануў пра прагрэс, які быў учынены ў Зоне ў час першых гадоў маёй працы ў „Гонях" і пра мадэрны іх абсталюнак. Не любаваліся мы доўга. У выніку інтрыг ад пасады выканаўчага камісара ў Асацыяцыі народнай песні і танца адсунуты быў Іспанец Люлько, вялікі прыяцель „Гоняў" ды нястомны прапаведнік узаемнай любові. Нейтронны плуг, электронныя сохі ды іншыя прылады апынуліся ў руках Асацыяцыі. А тут падыходзіла вясна, трэба было пачынаць сур'ёзную справу ў „Гонях". Патрэбны быў працэс і канчатковае высвятленне...

Інтарэс „Гоняў" адстойваў Хвядос Юрыга. Пачаўся разбор справы. Вядомая неканвенцыйнымі сваімі паводзінамі Рынгебольда Хахло паклікала мяне ў пратакалісты. Я перайшоў з лавы для абвінавачаных і заняў месца побач яе. Шыбеніца, гільяціна і макет газавай камеры былі на сваім месцы.

Першым да паказанняў стаў прэзідэнт Асацыяцыі Сесяль Ябко. Ён спецыяльна перапыніў свой водпуск і прыехаў з Рэспублікі Замбара ў Любагорск. Можна сказаць, што ўсё сваё жыццё ён праводзіў у водпуску ў Замбара, але, як і Хвядос Юрыга, зусім не быў чорны.

Доўга і красамоўна распавядаў ён пра вышэйшасць танца і песні над нацыяналістычнымі памкненнямі Зоны. Сказаў пра інтрыганства ў „Гонях", накіраванае на разбурэнне Вялікай Міжнацыянальнай Згоды і Агульна Абавязваючых Прынцыпаў. У гэты неяк момант Рынгебольда нахілілася ў мой бок і цішком запытала, ці не маю я цыгарэты. Я машынальна дастаў з кішэні пачку „Любчыкаў" з фільтрам. Хахло ўзяла адну цыгарэту...

— ...і таму, — Сесяль Ябко завяршаў свой вывад, — Асацыяцыя ўважае, што ў „Гонях" трэба, між іншым, перавесці Шызахрэна (г.зн. па-зонаўску Абуха) на пасаду адборшчыка гнілой бульбы ад добрай...

Хахло скрывілася, яна не курыла з фільтрам. Але тут жа, я гэта бачыў у ейным паглядзе, мільганула ёй адна думка. Ябко скончыў сваю рэч, збіраючы воплескі і любасныя позіркі сваіх супрацоўнікаў з Асацыяцыі. Найбольш любоўным зрокам вырачылася ў Ябко Цаца Галасок з Аддзела народнай песні Асацыяцыі. Рынгебольда Хахло суцішыла малатком публіку і папрасіла наступнага сведка. Жахліва ўсё-ткі хацелася ёй закурыць. Яна вокамгненна пацягнула за шнурочак пры гільяцінцы, лязо пад'ехала ўверх, спрытна палажыла туды цыгарэту, пусціла шнурочак — непатрэбны фільтр гладка адскочыў ад цыгарэты на сантыметраў пятнаццаць ды пакаціўся па стале яшчэ пару. Я падаў агонь. Палёгка была адразу відавочнай.

— Калі плуг такой высокай тэхналогіі стаіць без работы, — даваў сваё паказанне прэзідэнт Сябрыны чуць пісьменных ды кіраўнік „Месячніка" ў адной асобе Артадокс Хмялько, — нейтроны ў ім іржавеюць...

Гэты аргумент быў пераканаўчым, але толькі ў некаторай меры. Было яшчэ ў нас, гонеўцаў, спадзяванне, што прэзідэнт „Любаснай вяршыні" закіне сваё слова ў нашу карысць, але той аказаўся празмерна кампрамісным наконт прызнання нейтроннага плуга, электронных сох, механічнай і лазернай барон, а таксама магнітнастальважнага перадатчыка бульбы для якогасьці аднаго боку.

— Адзін спявае і танцуе, іншы буяніць у воблаках, а яшчэ іншы адбірае гнілую бульбу ад добрай на гонях, — па-філасофску закончыў Лірнік Дубко.

Паказанні сведкаў яшчэ доўга цягнуліся. Канчатковы прысуд палёгкі „Гоням" так і не прынёс. Рынгебольда Хахло засудзіла „Гоні" на вечную адізаляванасць у Зоне, на вечнае ахламонства...

Калі здаў я для Рынгебольды пратакол і меў далучыцца да сваіх, адчуў у ноздрах нецыгарэтны водар. Рынгебольда Хахло, не стрымаўшы сваёй цікаўнасці, нібыта выпадкова пацiснула кнопачку і прывяла ў дзеянне адмысловы макет газавай камеры...

# ПАРАДЫ ГАСПАДАРАМ

### Чарэшні

Што праўда, вераб'і і шпакі з'ядаюць многа чарвякоў і ўсякіх шкоднікаў садоў. Але калі пачынаюць спець чарэшні ці вішні, яны хмарамі абсядаюць дрэвы і здзюбваюць спелыя ягады. Людзі здаўна ламалі галовы над тым, як не дапусціць птаства да спеючых чарэшневых і вішнёвых садоў.

Варта выпрабаваць, які будзе рэзультат, калі развесіць на галінках чарэшні кружкі цыбулі. Птаства не любіць вострага паху гэтай гародніны. Іншым разам можна вешаць на дрэвах кавалкі сіняй паперы, паколькі птушкі не церпяць такога колеру. Не менш добрыя вынікі дае развешванне так званых анельскіх валасоў, якія ўжываюць для аздаблення калядных ёлак.

Некаторыя садаводы стаўляюць вятрачкі, вешаюць на нітках рэшткі люстэрак або забітых варон. Аднак, часам знаходзяцца адважнейшыя птушкі, якія хутка прывыкаюць да гэтых пудзілаў.

ЯСЕНЬ


**Ніва**

**"Niwa"**
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Міраловіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**

**Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".**

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na I kwartał 1995 r. upływa 20 listopada 1994 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na I kwartał wynosi 65 000 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 10 000 zł., a kwartalnie - 130 000 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# ПІШУ ЯК ЖЫВУ

*(вынятка з кнігі)*

* * *

Палякі ўмеюць смяяцца. Даўно ўжо помніцца з іх сатырычнага часопіса „Шпількі" малюнак з вялікім эпіграфам-растлумачэннем:

„У некаторых гарадах ёсць некаторыя рэстараны, у якіх некаторыя афіцыянты дазваляюць сабе ў адносінах да некаторых кліентаў некаторую нетактоўнасць".

На малюнку стол, за сталом кліент, над ім афіцыянт. І подпіс-дыялог, які лепш прагучыць у арыгінале:

Той, што сядзіць:

— Пан мі ласкаве пода зупэн.

Той, што стаіць:

— А пан мі поцалуе ў дупэн.

Толькі ўсяго.

Гэта ў палякаў пра саміх сябе. А можна і пра нас. Бо і нашу нягегла-бяззубую сатыру — колькі я памятаю яе — вязала па руках такое: „некаторы", „некаторыя", „некаторых"...

**Янка Брыль**

## АДПУСЦІЎ НА ВОЛЮ

Згадзіўся з жонкаю Раман,
Што ён прыгоннік і тыран,
І тэрмін рабства скараціў —
З дзіцём на волю адпусціў!

**Анатоль Цыркуноў**






Мал. В. Дубовіка

## ЖЫЦЦЁВЫЯ ВЫСНОВЫ

З вялікага кахання часта выходзіць вялікая нянавісць.

* * *

Прыгожае не тое, што навідавоку, а тое, што патаемнае.

* * *

Каб золата расло, як пустазелле, усе былі б багатыя.

* * *

У жыцці таму найгорш, каму ўсё жыць замінае.

* * *

Хто кажа, што ў Бога верыць, а да суседзяў з нажом кідаецца, Бога ў сэрцы не мае.

**Аўрора**

## СМЕХ У САНАТОРЫІ

Паліцыянт вяртаецца са службы дадому.

— Татачка, — вітае яго сынок, — сёння быў у нас адзін пан і пытаў пра цябе. Гаварыў, што хадзіў з табою ў школу.

— А як ён выглядаў?

— Быў тоўсты, лысы і вусаты.

— Гэта немагчыма: з нікім такім я ў школу не хадзіў.

* * *

Уваходзіць паліцыянт у краму:

— Прадайце ваксу для чаравікаў.

— Для якіх чаравікаў?

— Нумар 28.

* * *

Камендант пастарунка склікаў сваіх падуладных і кажа:

— Пра нас, паліцыянтаў, ёсць многа жартаў, але не бярыце гэтага да сэрца: 90% з іх — незразумелыя.

* * *

Экскурсія наведвае каралеўскі замак. Адзін з турыстаў з вялікай увагай аглядае габелен.

— Першая палова XVII стагоддзя, — гаворыць гід.

— А дзе другая?

* * *

— Ведаю вашу апошнюю кніжку, — гаворыць актрыса пісьменніцы. — Цікава, хто яе вам напісаў?

— А я цікава, хто яе вам прачытаў?

* * *

Размаўляюць дзве сакратаркі-машыністкі:

— Што ты атрымала ад свайго шэфа на імяніны?

— Ён — стары склератык: ужо чацвёрты раз запар купляе мне тое самае.

— А што такое?

— Арфаграфічны слоўнік.

* * *

Дзве сяброўкі:

— Дзе вы правялі сёлетні водпуск?

— У Рыміні ў Італіі.

— А ў якой гасцініцы?

— Назва зусім мне выпала з памяці... Пеця! Прынясі гэты новы ручнік з умывальні!

* * *

— Татачка, што гэта такое цывілізацыя?

— Цывілізацыя выступае тады, калі, каб даведацца, якое цяпер надвор'е, уключаеш тэлевізар замест адкрыць акно.

* * *

— Пяць чалавек атрымалі да яды агуркі; чатыры з іх да піцця атрымалі кіслае малако. Чаго не дастаў адзін?

— Паносу.

**Даслаў Андрэй Гаўрылюк**

# ЗДАНІ І ПАЧВАРЫ БЕЛАРУСІ

*(заканчэнне; пачатак у н-ры 40 за мінулы год)*

## ІСТОТЫ-ЛЮДАЖЭРЫ

### Акцёрка-пажадліўка

Некаторыя псеўданавукоўцы-шарлатаны, гаворачы пра шкоднасць пачваразнаўства, патрабуюць, каб дзяржаўныя структуры пазбавілі датацый гэтую галіну навукі. Пры гэтым яны спасылаюцца на адну прыкрую гісторыю, якая надарылася ў сталіцы Беларусі не так даўно...

Вядомы сталічны драматург Аляксей Д. неяк зайшоў у бар Дома акцёра, больш вядомы ў колах інтэлектуальнай і творчай эліты як „Каламутнае вока". За стойкай ён убачыў новую бармэнку. Былога акцёра дзіцячага тэатра, а цяпер масцітага драматурга, надзвычай уразіла, з якой натуральнай шчырасцю тая аблічвала падхмеленых кліентаў. На такое не быў здатны нават ён, і таму нечакана для сябе прапанаваў бармэнцы пабрацца шлюбам.

Разумеючы, што жонка вядомага драматурга не можа і надалей стаяць за стойкай, ён уладкаваў яе акцёркай у Акадэмічны тэатр.

Але з першых жа дзён шлюбу драматурга моцна занепакоіла наступнае: пры пацалунках былая бармэнка балюча кусала яго вусны, а аднойчы ледзь не адгрызла язык.

Нервова неўраўнаважаны драматург не мог доўга трымаць неспакой пры сабе і аднойчы ў п'янай кампаніі падзяліўся сваімі назіраннямі з лепшым сабутэльнікам — паэтам Вальдэмарам Н. Паколькі сталічны Дом акцёра месціцца ў былым архірэйскім палацы, то інтэр'ер, выкананы ў псеўдавізантыйскім стылі, схіляў сабутэльнікаў да містыкі; паэт Вальдэмар Н. адразу ж згадаў публікацыі беластоцкай „Нівы" пра жахлівых нячысцікаў і падступных злыдухаў. Пасля трэцяй пляшкі і сам Аляксей Д. пагадзіўся, што ягоная жонка — людажэрка.

Можа, драматург, прачнуўшыся з пахмелля раніцою, і забыўся б на вечаровую размову, каб не тыя пяшчоты, якімі выршыла адорыць яго жонка ў ложку: ледзь прытомны з вялікімі намаганнямі адарваў галаву ад падушкі і ўбачыў, як ягоны чэляс схаваўся ў роце былой бармэнкі па самы камель. Лоб драматурга пакрыўся халодным потам, бо ён ўспомніў, як тыдзень таму, беручы ў касцёле аплатку з рук ксяндза, ягоная жонка ледзь не адкусіла святару пальцы...

Перад масцітым драматургам ва ўсёй непазбежнасці вырашэння паўстала дылема — жончына жыццё ці ўласны чэляс. Не варта і казаць, што ён абраў апошняе — схапіўшы з начнога століка вялізны том сваёй новай п'есы ў вершах, Аляксей Д. забіў ім жонку...

На жаль, паспешлівае рашэнне не заўсёды бывае правільным: паталагаанатамічнае даследаванне былой бармэнкі паказала, што яна — самая звычайная жанчына, праўда, пажадліўка, але ні ў якім разе не людажэрка, як меркаваў яе муж.

А таму, шаноўныя аматары і аматаркі праўдзівых ліхтугаў і чорнага гумару, майце на ўвазе, што даследаваннем надзвычайных з'яваў у маштабе павінны займацца сапраўдныя прафесіяналы, а не дылетанты накшталт героя гэтай невыдуманай гісторыі, бо толькі прафесіяналы здольныя прадбачыць любыя, самыя нечаканыя адхіленні не толькі жыццёва-пачварнага, але і літаратурнага сюжэту...

Падрыхтавалі
**ФРАНЦІШАК ХЛУС і МАРЦІН ЮР**




Мілае Сэрцайка! Усё было так, што лепш і не прыдумаеш. Пажаніліся. І ў яго, і ў мяне добрыя прафесіі. Бацькі (яго і мае) заможныя, на добрых пасадах. Супольнымі сіламі пабудавалі нам прыгожы дом. У майго мужа былі ўжо і свае грошы, бо пару гадоў працаваў на Захадзе. Я адразу пасля заканчэння вучобы адчыніла ўласную фірму, а муж працаваў на „моцнай" дзяржаўнай пасадзе. Здавалася, жыць і не паміраць!

Адно мучыла мяне: не было дзяцей. Мой непакой узрастаў, бо ўжо на носе была трыццатка. Мо ў нас нешта не ў парадку? Пайшла я да знаёмага доктара, ён паглядзеў, зрабілі нейкія даследаванні. А тады доктар кажа: „Усё ў парадку. Перастань пра гэта думаць — і вельмі хутка будзеш мець дзіця!"

Тым часам мужу запрапанавалі ізноў працу за граніцай. На гэты раз — на Усходзе. Праца была добра платная і цікавая. Выпрашаў ехаць. Было гэта вельмі далёка, і муж прыязджаў дахаты раз у год. Сустрэчы нашы былі гарачыя, і той месяц, што быў прызначаны для нас, мінаў вельмі хутка.

Пасля другога мужава візіту я неспадзявана сцвердзіла, што зацяжарыла. Маёй радасці не было канца. Я адразу пазваніла мужу, паведаміла бацькоў і цесцяў. У сям'і павесялела. Усе чакалі нашага дзіцяці.

Сэрцайка! А я мушу табе прызнацца, што пры ўсёй гэтай радасці крыху непакоілася: ці не скажа часам муж, што гэта не яго дзіця, калі народзіцца яно сямімесячнае, або не будзе падобнае на яго. Столькі ж гадоў у нас не было дзяцей...

Але ўсе мае хваляванні былі дарэмныя: роўна праз дзевяць месяцаў пасля нашай апошняй сустрэчы нарадзіўся хлопчык, падобны на бацьку, як дзве кроплі вады. Муж прыляцеў адразу, быў вельмі ўзрушаны. Яго бацькі вырашылі заняцца дзіцём, калі пайду на работу. А ён? А ён мусіў вяртацца, бо кантракт забавязваў.

Я не магла дачакацца, калі ўжо муж вернецца назаўсёды. Не думала пра нейкую дапамогу, але ж мне хацелася, каб ён цешыўся разам са мною, як расце наш маленькі, каб кахаў яго ўсім сэрцам так, як я. Але да канца кантракта заставалася яшчэ паўтара года, і трэба было вытрымаць.

Праз год муж прыехаў у водпуск. Але быў нейкі іншы. Я адразу зразумела, што нешта тут не так. Быў задумённы, не цешыўся дзіцём, так як я гэтага спадзявалася. Што магло здарыцца, ніяк не магла я ўцяміць. Так і не даведалася нічога да яго ад'езду.

Але прыслаў пісьмо, у якім... паведаміў, што закахаўся ў мясцовую дзяўчыну на смерць і жыццё, і яна спадзяецца дзіцяці. О, Божа! Дык гэта ён баяўся мне сказаць! Падумаць толькі, закахаўся ў нейкую азіятку і нават не перажывае, што яна будзе радзіць ад яго! Усё я магла прадбачыць, толькі не гэта. Расхварэлася.

Кантракт скончыўся, і мой муж вярнуўся дахаты. Чаго я толькі не перадумала! Вырашыла, што дарую яму тое, што сталася. Усё-такі мужчына быў столькі гадоў на выездзе без жонкі... А ён мне паказвае здымкі таго дзіцятка і кажа, што хоча развесціся, што жыць са мной не будзе.

Ну, і развяліся. Тут упірацца не было сэнсу. Ён быў надта рашучы. Ізноў выехаў — цяпер ужо, відаць, не працаваць, а да яе. Я думала, што неяк буду жыць з сынам у гэтым шыкарным доме (сваю палавіну былы муж запісаў на нашага сына), а можа з часам і чалавека знайду.

Але вось нядаўна я атрымала ад яго пісьмо, у якім паведамляе, што прыедзе з новай сям'ёй. І, уяві сабе, маем жыць разам, у адным доме, бо да паўналецця сына ён мае карыстацца сваёй палавінай. А калі я згаджуся, дык ён мне можа... усё сплаціць, купіць новую кватэру. Я б хацела застацца ў гэтым доме, але ж у нас тут няват другога выхаду няма...

**Міля**

Міля! Другі выхад можна зрабіць, але маральна то будзе як вытрымаць. Ты ж яго яшчэ лічыш сваім мужам, гэта — бацька твайго дзіцяці. У такім „калхозе" жыцця не будзе.

Чаму ж ён не купіць сабе і той „азіятцы" кватэру? Чаму заўсёды ён мае быць наверсе?! Але, несумненна, што калі не згодзішся, дык тваё жыццё можа ператварыцца ў яшчэ большае пекла, чым ёсць яно ў даны момант.

Вялікія грошы рэдка калі прыносяць вялікае шчасце.

**СЭРЦАЙКА**